 

ПЯТЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# РУНЬ

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ ЛІТВЫ

WWW.RUNBEL.LT

11 красавіка 2001 №3 (39) кошт 1 літ

## КАЛІ НАРОД СПІЦЬ, НАРАДЖАЕЦЦА ПАЧВАРА — ЗВЫЧАЙНЫ ФАШЫЗМ

Фашызм – расавая, шавіністычная ідэалёгія, якая прапаведуе перавагу адной нацыі над другой, шырокае выкарыстаньне дзяржаўна-манапалістычных мэтадаў кіраваньня эканомікай, максымальны кантроль над усімі праявамі грамадзкага й асабістага жыцьця людзей,ператварае іх у бяспраўны, здэмаралізаваны ды паслухмяны ўладам натоўп.

"Нацыяналісты – фашысты!" – крычалі кантужаныя камунізмам людзі й ішлі выбіраць першага Прэзыдэнта Беларусі. "Ён наш чалавек, ён пастаіць за інтарэсы простых людзей, ён дасьць па руках злодзеям і несумленным людзям! " – крычала вёска. Выбралі!

"Нацыяналісты – фашысты!"– крычалі людзі й ішлі на рэфэрэндумы. Яны ўжо былі ўзброеныя расавай ідэалёгіяй, якую на ўвесь свет агучыў абраны імі прэзыдэнт: "Людзі, якія размаўляюць на беларускай мове, ня могуць рабіць нічога, як толькі размаўляць на беларускай мове. Таму што на беларускай мове нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова – бедная мова. У сьвеце існуюць толькі дзьве вялікія мовы – руская й ангельская". Недвухсэнсоўна прэзыдэнт агучыў і той парадак, які павінен пабудаваць беларускі народ, узброены расавай ідэалёгіяй: "Немецкий порядок формировался веками. При Гитлере это формирование достигло высшей точки. Это то, что соответствует нашему пониманию президентской республики и роли в ней президента". Адстаўным палкоўнікам, прыежджым чыноўнікам і ўсім, каму беларуская зямля не была роднай, было ўсё адно, хто прыйшоў яе рабаваць; здэнацыяналізаваныя, падманутыя людзі горача падтрымлівалі прэзыдэнта й ня слухалі ніякіх довадаў.

"Нацыяналісты – фашысты. Мы з нашым прэзыдэнтам сагнем вас у барані рог"– крычалі яны ў твар дэманстрантам. Сагнулі.

Я – нацыяналіст. Нацыяналіст – гэта чалавек, які любіць зямлю, на якой ён жыве і на якой жылі ягоныя продкі, які жадае дабра сваёй маці-зямлі, які любіць сваю нацыю, свой народ, які адчувае сябе ўтульна і камфортна сярод гэтага народа. Ён мае сваю ідэалёгію – нацыяналізм, якая зьявілася разам са зьяўленьнем чалавека на зямлі. Гэтая ідэалёгія разглядае нацыю як адзінае гарманічнае цэлае, з аднолькавымі асноўнымі інтарэсамі ўсіх сацыяльных групаў (пралетарыяў, чыноўнікаў, уласьнікаў). Яна сцьвярджае, што асноўным багацьцем краіны зьяўляюцца людзі й зямля, на якой яны жывуць, прапаведуе ідэю разьвіцьця нацыі, ейнага росквіту на аснове гаспадарскага выкарыстаньня Богам дадзенай народу зямлі, здольнасьцяў і працы народу пры ўзаемавыгадных зносінах зь іншымі нацыямі ды народамі. Яна выхоўвае ў нацыі павагу да іншых народаў і іхных культураў. Яна адзіная заўсёды супрацьстаяла самым розным шавіністычным праявам нашай цывілізацыі, яна адзіная адпавядае фундамэнтальнаму прынцыпу самаарганізацыі матэрыі й зьяўляецца падмуркам ідэалёгіі сацыяльнай гармоніі, якая станецца ідэалёгіяй цывілізацыі XXI ст., альбо інакш цывілізацыя загіне. Чалавек нарэшце павінен зразумець, што ён у кожны момант можа перайсці гібельную мяжу (экалягічны імпэратыў), пасля чаго пачнуцца неабарачальныя працэсы ў біясфэры й асяродзьдзе для жыцьця чалавека будзе разбуранае.

"Нацыяналісты – фашысты!" – нясецца дэзінфармацыя з ужо манапалізаваных беларускіх СМІ. І пад гэтую брудную лаянку прэзыдэнт ліхаманкава будуе агучаны ім "парадак". Прэзыдэнцкая вэртыкаль, дырэктарскі корпус, сілавыя структуры запаўняюцца людзьмі, якія гатовыя выканаць кожны загад зьверху, абы толькі захаваць сваё мейсца.

Кадравы састаў праходзіць праверку й карэктуецца ў дзеяньнях у разгоне дэманстрацыяў, у судах, у справе выкананьня антыканстытуцыйных загадаў. Лепшыя людзі краіны шукаюць прытулку за мяжой, бязсьледна зьнікаюць, паміраюць. Людзі запалоханыя. Ударная сіла новага парадку праходзіць практыку.

"Нацыяналісты – фашысты!"– штодня даводзяць СМІ. Народ інстынктыўна, на ўзроўні страўніка, адчувае, што адбываецца нешта ня тое, чаго ён чакаў: дармовых кілбасаў ня будзе, нацыяналістаў ва ўладзе даўно няма, але ўлада акрамя абяцанкаў і галечы нічога ім не дае й ня дасьць. Людзі ня хочаць ісьці на выбары. Але створаны новы парадак гэтага не дазваляе. Ён абавязвае чалавека йсці й галасаваць. За каго будзе галасаваць чалавек, рэжыму не цікава. Будуць абраныя тыя, на каго пакажа рэжым. Выбаршчык-жа павінен быць паслухмяным: загадана – выконвай загад, а не, дык... Як сказаў нейкі амапавец: "Загадаюць, заб'ю й маці! Я на службе, куды дзенесься?"

Я – назіральнік. Я прадстаўнік Беларускага Хэльсінскага Камітэту на 435 выбарчым участку 105-ай Коласаўскай акругі г. Мінску на паўторных выбарах 18 сакавіка 2001 г. Ідзе папярэдняе галасаваньне. Назіраю. Нейкія людзі глядзяць спісы выбаршчыкаў, некуды ідуць. На іхныя мейсца прыходзяць іншыя. Лаўлю краем вуха абрыўкі размовы: "Я ўжо, мабыць, 5 разоў наведавала

*Працяг на старонцы 3*



## ВЕЛІКОДНЫЯ СЬВЯТЫ

З даўняга-прадаўняга часу ўсе людзі на зямлі маюць звычай спраўляць свае сьвяты з урачыстай музыкай, сьпевамі й з вогнішчамі (яны ў пазьнейшыя часы былі замененыя ілюмінацыяй) з гульнямі й рознымі відовішчамі. І ў эпоху хрысьціянства, нягледзячы на будзь-якія забароны, беларускі народ працягваў упрыгожваць свае, наразе ўжо хрысьціянскія сьвяты, рознымі ўрачыстымі адзнакамі. Гэта асабліва яскрава адлюстроўвалася пры выкананьні абрадаў у праваслаўных цэрквах. Згодна гістарычных зьвестак па ўсім абшары Беларусі, Украіны й Расеі праваслаўны народ паблізу сваіх цэркваў у часе вялікіх хрысьціянскіх сьвятаў раскладваў вялізныя вогнішчы, вакол якіх зьбіраліся сьвяткуючыя, грала музыка ды адбывалася праўдзівае веча.

І цяпер у купальскую ноч паляць вогнішчы, праўда, далёка ад цэркваў, на берагох рэчак і вазёраў. А ў Велікодную Ноч вогнішчы пад царкоўнымі мурамі, з грымотнымі стрэламі й з ілюмінацыяй, якія яшчэ можна было пабачыць за царскім часам, а пазьней пры паляках у Заходняй Беларусі, — адыходзяць у нябыт. (Ва Ўсходняй-жа Беларусі ня толькі што паліць вогнішчы ды страляць каля цэркваў было немагчыма, але й самыя цэрквы былі амаль цалкам пазачыняныя ды зруйнаваныя. Не засталося ні цэркваў, ні званароў, бо званароў павывозілі ў далёкія сьцюдзёныя краі паўночныя, дзе звоніць толькі адзін ледзяны прыбой ля берагоў астравоў Салавецкіх).

У Заходняй Беларусі, як, зрэшты, і ва ўсёй Польшчы, польскія ўлады не чынілі ніякае перашкоды для царкоўных урачыстасьцяў са стрэламі. Трэба было толькі загадзя напісаць адпаведную заяву на дазвол і папрасіць адпусьціць столькі й столькі пораху для традыцыйных стрэлаў з мажджэраў. Давалі і згоду, і порах. Апроч таго, у ваяводзкіх гарадох, як напрыклад, Вільня, улады прыдзялялі для правядзеньня праваслаўных урачыстасьцяў цэлую роту жаўнераў з рэгулярнага Войска Польскага. Ім было загадана прысутнічаць на Вадохрышчы пры асьвячэньні вады (19 студзеня). У той момант, калі крыж апускаўся ў ваду, рота выцягвалася "на каравул" й стралялі пэтарды.

Як-жа ў Заходняй Беларусі і ў нас, на Віленшчыне, адзначалі Велікодныя Сьвяты? Пра гэта я й хачу расказаць.

Найперш зімою канчаўся "мясаед". За "мясаедам" пачыналася "масьленіца". Тады ўся моладзь коўзалася на санках з горкі, ляпілі сьнегавікоў, дурэлі, жартавалі, кідаліся сьнежкамі, кралі чужыя вароты ды зацягвалі іх кудысь на высокую вярбіну, каб гаспадар папацеў, здымаючы іх з сукоў. Ну, а ў апошнюю суботу мыліся ў лазьні ды пасьля прасілі адно ў аднога прабачэньня. У панядзелак-жа за "масьленіцай" пачынаўся Вялікі Пост. У царкве чутны быў журботны звон, і людзі першыя тры дні сьпяшаліся ў царкву на сумнае набажэнства... Сем тыдняў паста, а затым сам Вялікдзень! Але яшчэ за тыдзень да яго, на Вербніцу, людзі йшлі ў царкву сьвяньціць вербы, — і ўсе былі апранутыя ў новае адзеньне, бо ў старой вопратцы і думкі сумныя, і сьвята не адчуваецца. На Вербную Нядзелю ў царкве на клірасе харысты гучна крычэлі "Асанна!" — так сустракаў Хрыста народ у Ерузаліме за тыдзень да Ягонага ўваскрашэньня. Пасьля Вербнай Нядзелі надыходзіў Вялікі Чацьвер, калі людзі ўвечары йшлі ў царкву слухаць Эвангельле. У Вялікую Пятніцу быў вынас Сьвятой Плашчаніцы, якую насілі наўкол царквы, сьпяваючы "Сьвяты Божа". У Вялікую Суботу рана-ранюсенька адбывалася служба ў царкве. З алтара малодшыя школьнікі пяялі "Уваскрэсьні, Божа". Песьня гэтая была напісаная вядомым кампазытарам, ня помню якім. Ня ўсе дарослыя харысты патрапяць апанаваць гэтую песьню, а як для вясковай царквы, дык яна была ўнікальная! Ходзіць пра тое, што ў нашай Касуцкай царкве, як сам настаяцель царквы, так і рэгент хору дыякан Аляксандар Дзяруга вызначаліся немалымі музыкальнымі здольнасьцямі й навучылі музычнага сьпеву як сваіх дзяцей, так і навучэнцаў наўкольных школак. Таму Касуцкая царква была далёка ведамая сваім прыгожым царкоўным хорам, а ў выніку гэтага царкоўны клір нярэдка запрашаў яго ў суседнія цэрквы на розныя фэсты і ўрачыстасьці.

Звычайна, у Вялікую Суботу й на Вялікдзень прыпадалі пагодныя дні. Пасьля абедні ў суботу сьвяньцілі "пасху" (таксама, як і на Вялікдзень раніцою). Затым людзі прыбіраліся самі, прыбіралі хаты й да дванаццаці гадзінаў ночы ўсе йшлі ў царкву, вакол якой на доўгіх дратах былі паразьвешаныя рознакаляровыя ліхтарыкі з запаленымі знутры іх сьвечкамі. На высокай званіцы таксама калыхаліся каляровыя ліхтарыкі. Усе высокія сосны вакол царквы таксама былі ў ліхтарыках. Ад ліхтарыкаў лілося шмат сьвятла, у якім. здавалася, плыла нашая царква, пабудаваная ў форме карабля, у вокнах якой таксама зіхацелі праз усю ноч велізарныя сьвечкі, — аж да самай раніцы, калі ўсё асьвятленьне пачынала бляднець перад узыходзячай на небе заранкай.

А тымчасам, у воддалі, бліжэй да векавой пацямнелай ад часу капліцы, хлопцы палілі вогнішчы для ўрачыстых стрэлаў з мажджэраў. Мажджэр — адумысловая гармата прыстасаваня для гучных урачыстых стрэлаў. Адліваецца ён з чыгуна. У ягоны ствол забіваецца з дапамогай абуха загадзя змайстраваны і падагнаны да формы ствала, драўляны "шпунт". Пры гэтым належыць пільнавацца, каб "шпунт" не судакрануўся з порцыяй пораху, каторы перад гэтым насыпаюць на дно мажджэра. Уся штука будзе мець эфэкт, калі хлопец-гарматчык возьме распаленую на вогнішчы доўгую качаргу ды ў патрэбны момант засуне яе праз дзюрку, прасьвідраваную каля самага дна манджэра. Пры гэтым адбываецца моцны выбух і "шпунт" узьлятае высока ў неба, падаючы ў недалёкім сасоньніку. Мажджэраў у нашай царкве было два, большы й меншы. Зь іх стралялі па чарзе, і колькасьць стрэлаў была строга абмежаваная.

*Працяг на старонцы 8*





*У афармленьні нумара выкарыстаныя выцінанкі віленскай мастачкі Тацьцяны Маркавец*

 



Сьвята 25 Сакавіка ў Вільні для сьвядомых беларусаў пачалося зь мітынгу-рэквіему ў гонар барацьбітоў за Незалежнасьць Беларусі аб 10 гадз. раніцы каля касьцёлу Сьв. Барталамэя на Зарэччы. У сваей казані кс. Ян Шуткевіч успомніў пра герояў адраджэньня Беларусі, нагадаў пра сёньняшняе трагічнае становішча на нашай Радзіме, а таксама адзначыў важную ролю беларускай дыяспары ў міжнацыянальных і міждзяржаўных адносінах. Пасьля мітынгу, на якім прысутнічалі шматлікія прадстаўнікі беларускай грамадзкасьці, адбылася Сьвятая Імша за Беларусь.



*Здымак Тацьцяны Сапач*

**На чарговым паседжаньні** пэдагагічнае рады школы імя Ф. Скарыны разглядаліся пытаньні, якія павінныя вырашацца ў цяперашні час перабудовы адукацыі ў Літве. Самыя надзённыя зь іх для нас: камплектаваньне 1-ай клясы й летні адпачынак вучняў. Вучні, што прыйдуць наступнага верасьня ў 1 клясу разам зь беларускай будуць вывучаць літоўскую й яшчэ адну замежную мову, будуць вывучаць кампутары, ім будзе прапанаваны ўдзел у разнастайных гуртках, у экскурсіях па горадзе. Усе яны будуць забясьпечаныя бясплатнымі абедамі, школа шукае магчымасьць падвозіць дзяцей на заняткі й адвозіць дамоў. Дарэчы, школа папаўняецца й старшаклясьнікамі. Усе яны патэнцыяльна пасьля заканчэньня нашай школы могуць без экзаменаў паступіць у амаль кожную ВНУ ў Беларусі. Прыймаюцца ў школу перадусім тыя вучні, каторыя маюць беларускія карані. Школа нашая невялікая, утульная, цёплая. Параўнальна малая колькасьць вучняў і адданая праца настаўнікаў дазваляюць трымаць навідавоку кожнага падлетка, дзякуючы чаму мы ня ведаем многіх нэгатыўных зьяваў (напрыклад, наркаманіі), якія распаўсюджаныя ў вялікіх школах. Сёлета ўлетку нашым дзецям будзе прапанавана 60 пуцёвак ў розныя маляўнічыя й экалягічна чыстыя куткі Беларусі. 15-20 вучняў адпачнуць у этнаграфічным летніку ў Рымдзюнах (у літоўскім культурным цэнтры на недалёкай Астравеччыне), дзе яны будуць вывучаць літоўскую й беларускую мовы, знаёміцца з этнаграфіяй, гісторыяй і рамёствамі беларуска-літоўскага памежжа. Гэты адпачынак фінансуе Дэпартамант нацменшасьцяў Літвы. А для нашых дзяўчынак ёсьць магчымасьць пабываць у Фінляндыі. Жаночая арганізацыя Літвы падключылася да швэдзка-фінскага праекту ў справе падрыхтоўкі дзяўчынак да грамадзкае дзейнасьці, іхнага азнаямленьня з правамі жанчынаў, нацыянальных меншасьцяў, з гісторыяй, культурай, архітэктурнымі помнікамі Фінляндыі. Ёсьць таксама дамоўленасьць з Жыровіцкім рэлігійным цэнтрам пра адпачынак нашых дзяцей у летніку пры цэнтры, дзе яны ня толькі пазнаёмяцца з гісторыяй знакамітага Жыровіцкага манастыра, але й зоймуцца ўпарадкаваньнем манастырскай тэрыторыі, а таксама наваколья старажытнай Сынкавіцкай царквы-крэпасьці – адзінай на тэрыторыі Беларусі царквы абарончага тыпу. Настаўнікаў-жа чакае паездка ў Сэйны (Польшча), дзе яны пазнаёмяцца з жыцьцём тамтэйшай літоўскай дыяспары. А неўзабаве школа будзе прыймаць камісію з Міністэрства адукацыі РБ, якая адбярэ абітурыентаў, што жадаюць атрымаць вышэйшую адукацыю на Бацькаўшчыне.

*Настаўнік хіміі й біялёгіі*
Павал Саўчанка

**Упершыню самастойна** быў адзначаны Дзень Волі Таварыствам беларускай культуры ў Літве. У дамкі Таварыства сабраліся тыя, каму дарагія ідэалы Свабоды й Незалежнасьці Беларусі. Сьцены актавай залі аздабляў бел-чырвона-белы сьцяг, герб "Пагоня", а таксама партрэты сучасных ведамых беларускіх дзеячоў З. Пазьняка, Р. Гарэцкага, А. Грыцкевіча, С. Шушкевіча, С. Шарэцкага, Х. Нюнькі, напісаныя вучаніцай школы імя Ф. Скарыны М. Стральчэняй. На сьвяце дзейнічала выстаўка малюнкаў школьнікаў, прадаваліся бел. кнігі й пэрыёдыка. Сярод прысутных былі госьці зь Менску, журналісты зь Вільні, прадстаўнікі літоўскіх уладаў. Старшыня ТБК Хведар Нюнька зачытаў віншаваньні Зянона Пазьняка, Сямёна Шарэцкага, Івонкі Сурвілы, Раісы Жук-Грышкевіч і Паўлюка Гуза. Гісторык Анатоль Грыцкевіч адзначыў у сваім выступленьні, што калі-б не была абвешчаная БНР, наўрад ці была-б утвораная нават і марыянэтачная БССР у межах СССР, у каторай усё-ж былі захаваныя пэўныя элемэнты нацыянальнага йснаваньня беларусаў. Шаноўны госьць распавёў таксама пра падрыхтоўку сьвята ў Беларусі, аб дзейнасьці сілаў, апазыцыйных пануючаму зараз рэжыму. Ён падкрэсьліў, што за 10 гадоў існаваньня няхай сабе й фармальнай незалежнасьці выхавана цэлае пакаленьне маладых барацьбітоў за волю й сапраўдную незалежнасьць Радзімы. Вядомы ў Літоўскай Рэспубліцы праваабаронца Стасіс Каўшыніс у сваёй прамове сказаў, што Літва будзе рабіць усё, каб беларускі народ атрымаў тую Волю, пра якую марылі стваральнікі БНР у 1918 г. Пасьля выступленьняў прамоўцаў школьнікі з школы імя Ф. Скарыны ў народных строях выступілі з цудоўнай праграмай, на якой апрача беларускіх песьняў гучалі яшчэ літоўскія й жыдоўскія, дэклямаваліся патрыятычныя й лірычныя вершы Н. Гілевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча ды іншых беларускіх паэтаў.

Павал Саўчанка

**У "Зялёным ліхтары"** тэатры пры Палацы прафсаюзаў у Вільні, адбыўся Міжнародны дзень тэатру. 24 сакавіка ва ўтульнай круглай залі сабралася шмат дзяцей і дарослых, сярод якіх быў і вакальны ансамбаль школы імя Ф. Скарыны "Лянок". Ён выканаў беларускую песьню й падарыў "Зялёнаму ліхтару" маленькую гліняную птушачку – працу вядомага бел. майстра Сяргея Шчэрбы. Вучань нашай школы Анатоль Шавыраў выканаў у спэктаклі "Сьнежная каралева" галоўную ролю. Прыдворную варону ў гэтым спэктаклі таксама грала нашая вучаніца Марына Курыліна.

*Вучаніца 5-ае клясы*
Тацьцяна Кавальчук

**На радзіме Багушэвіча**
Летась беларусы ўсяго сьвету адзначалі 160-годзьдзе з дня нараджэньня й 100-годзьдзе з дня сьмерці Францішка Багушэвіча. І нашая школа імя Ф. Скарыны таксама не была ў баку ад гэтай значнай падзеі: вучні й настаўнікі пазнаёміліся зь мясьцінамі ў Вільні й Віленскім краі, дзе жыў і працаваў Багушэвіч, наведалі магілы сваякоў паэта на Росах, пабывалі ў Сьвіранах, дзе нарадзіўся Багушэвіч, глыбей пазнаёміліся зь ягонай творчасьцю. А нядаўна мы зноў пабывалі на радзіме "бацькі беларускай паэзіі" – маляўнічай Ашмяншчыне. Першы вялікі прыпынак быў у Жупранах, старадаўнім мястэчку, вядомым з 15 ст. І сёньня Жупраны, шмат чаго згубіўшы з свайго хараства й прывабнасьці, выглядаюць нядрэнна. На пагорку ў цэнтры мястэчка ўзвышаецца гатычны касьцёл з чырвонай цэглы зь лёгкімі прыгожымі вежачкамі. Ніжняя частка касьцельных муроў выкладзеная з валуноў, якіх шмат траплеяецца на навакольных палетках, заглыбленьні паміж валунамі запоўненыя белай вапнай з уціснутымі ў яе чорнымі каменьчыкамі – гэта так званая "разынкавая мураванка". Палюбаваўшыся касьцёлам мы скіравалі ў мяйсцовую школу. Школа, вядома-ж, носіць імя Ф. Багушэвіча, у ёй вучыцца крыху больш за 200 вучняў з Жупранаў і навакольных вёсак. Знаёмства адбылося ў актавай залі, там-жа нашыя вучні паказалі сваю канцэртную праграму. Пасьля канцэрту гаспадары паказалі свае клясы, кабінэты й, самае галоўнае, музэй Багушэвіча, экспанаты якога збольшага зробленыя рукамі самых вучняў і іхных настаўнікаў. Па абедзе мы пабывалі на магіле Ф. Багушэвіча й ягоных родных – могілкі месьцяцца побач з касьцёлам. У касьцёле мы пабачылі ўмураваную ў сьцяну мармуровую дошку з выявай Багушэвіча працы вядомага ў свойчас віленскага мастака Івана Арасімовіча. З могілак бачныя прыгожыя краявіды, аточаныя зялёнымі хвойнымі лясамі, да могілак туляцца хаты сялянаў. Крыху ніжэй, на раздарожжы, на мейсцы былой кірмашовай плошчы пастаўлены ў 1958 г. помнік Мацею Бурачку. Помнік стаіць на двух неапрацаваных валунах. Тое, што помнік паэту створаны Заірам Азгурам, жыдам паводле паходжаньня, зусім ня дзіўна: у Багушэвічавы часы большасьць жыхарства Жупранаў складалі жыды. І Багушэвіч, будучы адвакатам, абараняў ня толькі інтарэсы беларускага сялянства, а і ўсіх тых, хто жыў зь ім побач і зьвяртаўся за дапамогай. Пасьля Жупранаў мы пераехалі ў радавое котлішча Багушэвічаў – Кушляны, якімі яны валодалі больш за 200 гадоў. Да Кушлянаў ад Жупранаў ня так і блізка, і вучні дзівіліся, што Багушэвіч часта пешкі наведваў мястэчка, добра ведаў ягоных жыхароў. Аказваецца, даўней меліся іншыя дарогі й сьцежкі, якія значна скарачалі адлегласьць. І мяйсцовасьць тады была яшчэ больш прывабная: густыя бары, паўнаводныя рэчкі з таямнічымі затокамі, балотцы, дзе вадзілася разнастайная дзічына й рыба. Аднак меліярацыя зьнішчыла балоты, выраўнала рэчкі, пашырыла палеткі. Хараства паменела, але й цяпер яшчэ паміж маляўнічых пагоркаў расьце малады лес, раскіданыя сялянскія сядзібы. І сяляне, як і ў тыя даўнейшыя часы, у гэты дзень вывозілі гной на палі, везьлі зь лесу дровы на вазох, аглядалі свае гаспадаркі. На гольлі высокіх дрэваў гракі спрытна будавалі гнёзды. У Кушлянах мы наведалі Багушэвічаў музэй-сядзібу. Дом, абора, альтанка, сад, якія туляцца да лесу, – умелі людзі ў даўнейшыя часы і будаваць, і выбіраць мейсца для пабудовы жытла. Загадчыца музэю распавяла пра гісторыю ягонага стварэньня, як у паваенны час сядзіба паэта рабавалася, зносіліся гаспадарчыя пабудовы. Потым, у 50-ыя гг., пачалі нанова зьбіраць рэчы, ствараць музэй... Калі вярталіся дамоў, мне падумалася, што заклік нашага слыннага паэта "Не пакідайце мовы нашай, каб ня ўмёрлі" й дагэтуль застаецца надзённым, бо ўжо ў суседняй з Жупранамі Ашмяне паўсюль гучыць гэтак званая "трасянка"...

Павал Саўчанка

**Сьвята лялечных школьных тэатраў,** якое кожную вясну праводзіцца ў Вільні, пачалося 29 сакавіка ў школе Паўпе, што на Зарэччы. Удзельнічалі тры школы: літоўская Шальціне, руская Паўпе й беларуская імя Францыска Скарыны. Першыя выступалі самыя малодшыя артысты – вучні нашай школы. Гасьне сьвятло. Гучыць ціхая музыка. Сьпяваюць і танцуюць дзяўчынкі ў белых сукенках з запаленымі сьвечкамі ў руках. Гэта ансамбаль "Жуoравінка" пад кіраўніцтвам настаўніцы Валяньціны Кавальчук. Адчыняецца батлейка й пачынаецца спэктакаль. "Я – цар Ірад!" – гучыць звонкі голас Насьці Хадунькінай. А вось выбег і чорт, якога грае Марк Мартунас. "Аць-два, аць-два...",– гэта прыйшоў воін – Ігнась Поклад. Са званочкам зьяўляецца Анёл у выкананьні Віялеты Макунайце. "Цару мілы, цару літасьцівы, уратуй маё дзіцятка ад сьмерці!"– плача й просіць Рахіль – Жэня Кеппул. Але злы й жахлівы цар яе ня слухае й праз гэта яму самому не ўратавацца ад Сьмерці, якую грае Таня Аўгусьціновіч. Маленькія артысты тэатру "Званочак", якія вучацца толькі ў другой клясе, зь вялікім посьпехам спраўляюцца са складанымі ролямі біблейскай містэрыі.

*Настаўніца* Ала Шынкевіч,
*кіраўніца тэатру "Званочак*



Зьлева направа: Т. Аўгусьціновіч, І. Поклад, Ж.Кеппул, В. Макунайце, М. Маркунас, Н. Хадунькіна, настаўніца А. Шынкевіч

# Чаму "бацькам галоснасьці" пагарджаюць у Расеі?
## Апошняя місія Якаўлева

*Паважаная рэдакцыя! Пасылаю вам артыкул, тэма якога — падлік ахвяраў камуністычнага тэрору й іншых бедаў, якім займаўся Якаўлеў, каторы, відаць, меў доступ да сакрэтных крыніцаў КДБ. Тэма гэтая цяпер надзвычай важная й карысная для нас, каб беларусы зразумелі нячыстую сілу, якая цяпер стараецца зь іх зьдзекавацца, ды, нарэшце, выбралі сабе добрую ўладу. Спадзяюся, што такі матар'ял нашага канадыйскага карэспандэнта дапаможа нам!*

***Кастусь Акула***

Падобны да савы маленькі чалавек з кусьцістымі брывамі мірна шпацыраваў па Чырвонай Плошчы, калі да яго наблізілася нейкая жанчына й абсыпала руганьню. "Ты ўсё яшчэ не ў турме?" — запыталася яна.

Аляксандар Якаўлеў пасьміхнуўся й брудна вылаяўся. Потым спакойна пайшоў далей. Дзесяць гадоў прайшло з таго часу, як ён пакінуў Палітбюро, а ягоныя ворагі ўсё яшчэ абвінавачваюць яго ва ўсіх няшчасьцях, якія абрынуліся на Расею. Але ў свае 77 гадоў ён успрымае свой лёс такім, які ён ёсьць.

Містэр Якаўлеў быў "інтэлектуальным бацькам" галоснасьці — палітыкі адкрытасьці, якая асьвятліла шлях да палітычнай свабоды ў цяперашняй Расеі, і архітэктарам рэформаў, што паскорылі развал Савецкага Саюзу. (Адной з крыніцаў, якія натхнілі яго на гэта, была Канада, дзе ён дзесяць гадоў быў савецкім амбасадарам).

Ён таксама быў тым чалавекам, хто прыцягнуў увагу да жахлівых старонак савецкай гісторыі, раскрываючы таямніцы ГУЛАГу, масавых пакараньняў і расказваючы пра мільёны загінуўшых у канцлягерох і турмах.

Праз гэта былы член Палітбюро быў абвешчаны здраднікам, іншаземным шпіёнам і "ворагам народу".

У ягоны офіс падкідваюць поўныя нянавісьці лісты. Недабрадзеі пагражаюць застрэліць яго, павесіць, пасадзіць у турму. Яны нават вешалі пахавальныя вянкі на ягоныя дзьверы. Тым ня менш містэр Якаўлеў верыць, што ягоны крыжовы паход — барацьба за вяртаньне Расеі ейнай калектыўнай памяці — адзіны шлях да пакаяньня для яго, савецкага "апаратчыка", жыцьцё якога было поўнае прывілеяў.

Хаця ягоны век даўно ўжо пэнсіённы, ён мае адну апошнюю місію. Ён хоча зрабіць тое, што яшчэ не зрабіў ніхто: выканаць афіцыйны падлік ахвяраў савецкіх рэпрэсіяў. Паводле ягоных прыблізных падлікаў, 35 млн. людзей былі растраляныя або памерлі ў выніку пастановаў і ўказаў. Гэты ашаламляльны лік стратаў роўны амаль чвэрці сёньняшняга насельніцтва Расеі.

Ён хоча, каб Крэмль даў дабро дасьледаваньням, якія-б праверылі правільнасьць ягоных падлікаў.

"Народ павінны ведаць!" — сцьвярджае ён, грукаючы рукоў па стале ў сваім маскоўскім офісе, у каторым кніжныя шафы запоўненыя тамамі з сьпісамі палітвязьняў і ўсіх, хто загінуў у Савецкім Саюзе.

У 1988 г., калі містэр Якаўлеў быў ужо магутным членам Палітбюро й радцам Прэзыдэнта СССР Міхаіла Гарбачова, ён зрабіўся старшынём камісіі па рэабілітацыі ахвяраў савецкіх турмаў і "чыстак". Напрацягу трох гадоў ён высьветліў імёны мільёна людзей і абвесьціў пра іхную невіноўнасьць. Нават тады ён прызнаваў, што гэта была "цяжкая, духова зьнясільваючая праца".

На сёньня камісія рэабілітавала 4 млн. людзей і павінная яшчэ перагледзіць 400 тыс. справаў.

У сваёй кнізе "Вір памяці" містэр Якаўлеў пералічвае некаторыя кашмарныя дадзеныя, адшуканыя ягонай камісіяй. Больш за 41 млн. савецкіх грамадзянаў было кінута ў турмы ў пэрыяд ад 1923 па 1953 гг. На 1954 г. больш за 884 тыс. дзяцей было ў ссылцы. Больш за 85 тыс. праваслаўных сьветароў было расстраляна толькі ў 1937 г. 5 млн. чалавек памерла галоднай сьмерцю ў выніку штучна створанага голаду ў 30-ыя гг. Больш за 5 млн сем'яў было саслана, і палавіна зь іх памерла па дарозе ў ссылку.

Крок за крокам, больш за дзесяць гадоў, містэр Якаўлеў павольна спускаўся па тым, што ён называе "крывавай лесьвіцай савецкай гісторыі". Зараз ён дасягнуў апошняй прыступкі й хоча, каб расейцы ўбачылі тыя жахі, каторыя ён выявіў у падвале.

Як-бы тое не было, большасьць адводзіць пагляд. Расея ахопленая амнезіяй, і толькі нямногія зацікаўленыя ў гістарычнай праўдзе.

"Рускія ёсьць сантымэнтальныя," — гаворыць містэр Якаўлеў, — "Калі памірае адзін чалавек, мы смуткуем і плачам. А калі паміраюць мільёны, мы лічым гэта нармальнай палітыкай".

Замест памяці — цьмяная настальгія. Помнікі Ўладзіміру Леніну па-ранейшаму дамінуюць на цэнтральных плошчах амаль усіх расейскіх гарадоў. Забальзамаванае цела Леніна ўсё яшчэ выстаўленае напаказ у маўзалеі на Чырвонай плошчы. Дзясяткі вэтэранаў КДБ зноў на высокай службе, уключаючы прэзыдэнта Ўладзіміра Пуціна.

Многія расейцы адзначалі гадавіну з дня стварэньня ФСБ — савецкай тайнай паліцыі. Камуністычная партыя застаецца, як і даўней, самай вялікай у краіне.

У сьнежні містэр Пуцін "вярнуў да жыцьця" мэлёдыю Дзяржаўнага гімну СССР — таго самага, дзе апяваліся Сталін і Ленін, і зрабіў яго асноваі Расейскага гімну. "Расея да самага небасхілу пакрытая касцьмі й безымяннымі магіламі. Самы час задумацца пра гэта, пакаяцца, прынесьці прабачэньні тым, хто выжыў, укленчыць перад мільёнамі пагіблых, абудзіць нашае сьпячае сумленьне й зразумець, што гэта мы самі дапамаглі рэжыму пераўтварыць нас у рабоў, — піша Якаўлеў у сваёй кнізе. — Мне асабіста сорамна, што мы, старэйшае пакаленьне, дазволілі Леніну й Сталіну забіваць нас. Мы рабілі даносы на нашых суседзяў, пляскалі ў ладкі нашым "правадырам" і расстрэльвалі сваіх суайчыньнікаў. Мы былі людзьмі без пачуцьця ўласнай годнасьці..."

У самога містэра Якаўлева была зручная 45-гадовая кар'ера савецкага чыноўніка, які лаяльна служыў усім пасьлясталінскім лідэрам. Толькі ў апошнія гады свае кар'еры ён адыйшоўся ад камунізму.

Нарадзіўшыся ў 1923 г. у сялянскай сям'і ў маленькай вёсцы на беразе Волгі, ён рос з палымянаю вераю ў мудрасьць Сталіна. Падчас Другой сусьветнай вайны ён, чырвонаармеец, ледзьве выжыў пасьля кулямётнага абстрэлу ў адным з баёў пад Ленінградам.

Перад 60-мі гг. ён заняў галоўны пост у ідэалягічным аддзеле ЦК. Аднак калі напісаў артыкул, у якім крытыкаваў рускі шавінізм, яго выдалілі ў Канаду, дзе ён быў амбасадарам Савецкага Саюзу з 1973 па 1983 г.

"10 гадоў свайго жыцьця я аддаў Канадзе, — піша ён у кнізе. — Я старанна вывучаў канадзкае жыцьцё. Гэта было простае, прагматычнае жыцьцё, якое грунтавалася на здаровым сэньсе. Я пытаўся ў сябе, чаму мы ў Савецкім Саюзе адмаўляемся адкінуць нашыя догмы. Указаньні, якія я атрымліваў з Масквы — крытыкаваць Канаду й праводзіць нашую прапаганду — здаваліся мне такім глупствам".

У 1983 г., калі містэр Гарбачоў быў яшчэ малавядомым сакратаром аддзела ЦК, што курыраваў сельскую гаспадарку, містэр Якаўлеў суправаджаў яго ў дзесяцідзённай паездцы па канадзкіх гарадах і фэрмэрскіх гаспадарках. Яны зрабіліся сябрамі й палітычнымі саюзьнікамі.

А калі містэр Гарбачоў стаў прэзыдэнтам Савецкага Саюзу, ён назначыў містэра Якаўлева галоўным саветнікам і кіраўніком у ідэалягічных пытаньнях.

Ён быў ідэалягічнаю сілаю за тронам. Ён распрацаваў першую крамлёўскую палітычную стратэгію перабудовы ў 1985 г. і вёў барацьбу за свабоду слова, першы дазволіў публікаваць сакрэтныя гістарычныя матар'ялы.

Да 1991 г. камуністы, прыхільнікі жорсткага палітычнага курсу, стараліся выціснуць яго зь вяршыняў палітычнае ўлады. У жніўні ён пакінуў свой пост і папярэдзіў, што сталіноўская фракцыя рыхтуе змову, каб захапіць уладу. Цераз тры дні прыхільнікі жорсткага курсу нанесьлі свой удар. Путч праваліўся, і да сьнежня Савецкага Саюзу ня стала.

Калі містэр Якаўлеў знаходзіўся ў Канадзе, яго ўразілі вынікі апытаньняў, каторыя паказвалі, што шмат маладых канадыйцаў ня ведаюць нават прозьвішча свайго прэм'ер-міністра. "Гэта добра, — разважае ён. — Няхай людзі працуюць, нічога не чакаючы ад сваіх лідараў. Чаму гэтак многа расейцаў чакаюць рашэньняў сваіх лідараў? Яны не валодаюць магічнымі сіламі".

Ён ня зьдзіўлены, што расейцы варожа ставяцца да ягонага крыжовага паходу. "Самыя лепшыя й найбольш таленавітыя былі зьнішчаныя Савецкім Саюзам. Большасьць тых, хто выжыў, былі абыякавыя, напоўадукаваныя, неактыўныя й пасрэдныя. Нам трэба нашмат больш гадоў, каб адрадзіць нацыю".

Тым часам ён ня хоча пакінуць барацьбу за гістарычную справядлівасьць. "Гэта — мой лёс, — кажа ён. — Дзеці былых "ворагаў народа" цяпер ужо ў веку... І яны зьяўляюцца апошнімі сьведкамі таго страшнага часу".

Джэфры Ёрк, *"Глоб энд Мэйл", Таронта, 9.03.2001*

# Калі народ сьпіць, нараджаецца пачвара — звычайны фашызм

*Працяг са старонкі 1*

гэты пакой, не ідуць галасаваць і сьмяюцца. Дасмяюцца!" Разумею — "выбары" адбудуцца. Размова па сутнасці. Пытаюся 16 сакавіка ў намесьніка старшыні выбарчай камісіі: "Якая агульная колькасьць выбаршчыкаў на ўчастку? Я ня бачу спісаў выбаршчыкаў?" Адказ: "Гэта Вам не савецкі час, я Вам іх паказваць і вывешваць ня буду!" Сапраўды, час не савецкі. Замаўкаю. Ідзе падлік прагаласаваўшых. Я маўчу й слухаю.

"Выйдзіце. Вы нам перашкаджаеце працаваць!"— загадвае намесьнік старшыні. Выхожу ў суседні пакой. У 19.05 чальцы камісіі скончылі працу й пакінулі пакой, дзе знаходзіцца вурна для папярэдняга галасаваньня. Пытаюся ў намесьніка старшыні, чаму ён не апячатаў пакой, у якім застаецца на ноч вурна? Адказ: "У пакоі будзе начаваць міліцыянэр". Міліцыянэр падцьвярджае, што ён прадстаўнік улады й будзе начаваць каля вурны... Што-ж, з выбарчай тэхналёгіяй усё зразумела. Гэтак званае "папярэдняе галасаваньне" — невычарпальная прастора для фальсыфікацыі. А каб людзі прыйшлі да вурнаў у пэрыяд папярэднега галасавання, створаная й апрабіраваная на практыцы ўдарная сіла новага парадку.

18 сакавіка дзень выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Каля 11 гадзінаў старшыня камісіі радасна паведаміў: "Выбары адбыліся!" На гэты момант прагаласавала 43 чалавекі (!). Звяртаюся да старшыні за тлумачэньнем. Ён мне тлумачыць: "Пастрашылі троху дзяцей, дык яны прагаласавалі папярэдне". Вось так. "Дзяцей" пастрашылі, што выганяць з каледжу, інстытуту, інтэрнату, працоўных — што зволяць з працы. Тых, хто страшыў "дзяцей", пастрашылі, што яны згубяць свае пасады, больш высокі ранг пастрашылі, што ён згубіць цёплыя мейсцы, — і так да верху пірамiды. Усе пад страхам і ўсе задаволеныя. А як жа наконт правоў, свабоды чалавека, канстытуцыйных гарантыяў, якi "новы парадак" пабудавалі сабе людзі за 7 гадоў у Беларусі?

Ды нічога новага - звычайны фашызм. Ён ня лепшы й ня горшы за італьянскі альбо нямецкі з усімі іхнымі атрыбутамі й рысамі. Расавая, шавіністычная ідэалёгія рэжыму адкрыта скіраваная супраць карэннай нацыі, зьнішчае нацыю й ейную культуру (81,6% насельніцтва краіны). Жорсткія, дзяржаўна-манапалістычныя мэтады кіраваньня эканомікай. Жорсткі дзяржаўны кантроль за грамадзкім і асабістым жыцьцём (разбураюцца прафсаюзы, удушаюцца грамадзкія арганізацыі й палітычныя партыі, нахабна парушаюцца правы чалавека). Грамадзтва мэтанакіравана ператвараецца ў паслухмяны, зьбяднелы, здэмаралізаваны натоўп.

Як-жа здарылася, што ў краіне, у якой кожны чацьверты загінуў ад фашызму, ўсталяваўся фашысцкі рэжым? Нічога дзіўнага. Камуністычная ідэалёгія прапаведуе сьмяротную клясавую барацьбу, а фашызм — расавую. У гэтым іхнае адрозьненьне, а ў астатнім усё аднолькава. Таму грамадзтва й не заўважыла, як камуністычны рэжым ператварыўся ў фашысцкі. Камуністычны ідал (Ленін) быў проста заменены іншым (Гітлерам, ягоным парадкам). Дарэчы, яшчэ ў 50-я гг. XX ст. вялікі фізык Ландаў сказаў, што першым фашыстам быў Ленін. Пакуль ачмураны народ з падачы расісцкіх клянаў Беларусі й Расеі крычаў "Нацыяналісты — фашысты!", фашызм спакойна і ўтульна ўладкаваўся ва ўсіх структурах улады Беларусі. Ён будзе сябе там утульна адчуваць, пакуль людзі не зразумеюць, што для фашызму (як і для камунізму) самым страшным ворагам зьяўляецца нацыяналізм, бо апошні лічыць чалавека самай вялікай каштоўнасьцю краіны, гаспадаром зямлі, на якой ён жыве, які адказвае за ейны стан перад усім сусьветам. Гэтыя палажэньні нацыяналізму сьмяротныя для фашызму Дэградацыя грамадзтва, краіны спыніцца толькі тады, калі народ пакліча да ўлады нацыянальна сьвядомага чалавека, найвялікшай мэтай жыцьця якога будзе прыгажосьць, росквіт, шчодрасць ягонай зямлі, росквіт ягонай краіны, разьвіцьцё яе ў поўнай адпаведнасьці з законамі прыроды. Такі кіраўнік ня будзе енчыць, што яму не стае ўлады, што ўсе вакол яго ворагі. Ён спакойна, у адпаведнасці са сваім сьветапоглядам, даможацца таго, што сям'я сапраўды стане самым прыярытэтным клопатам дзяржавы, бо моцная сям'я — гэта моцная нацыя, квітнеючая краіна. Чалавек, як і наканавана яму прыродай, стане сапраўдным гаспадаром зямлі, на якой ён жыве (дарэчы, незалежна ад нацыянальнасьці). Тады адзін чалавек са зграяй паганятых ня будзе муштраваць паслухмяны й абыякавы да ўсяго натоўп. 10 мільёнаў чалавек пачнуць думаць і адраджаць сваю зямлю без аглядкі на ідала, згодна сваім інтарэсам, для сваіх дзяцей. І плён не заставіць сябе доўга чакаць, бо калі чалавек працуе на сябе, ён працуе на ўзроўні сваіх магчымасьцяў. Ён ня раб, ён гаспадар і ён зможа на поўніцу выкарыстаць велізарны рэзэрв у выглядзе гістарычнага досьведу свайго народу.

Іншай магчымасьці для росквіту краіны прырода не прыдумала.

*Сябра цэнтральнай рады БСДГ*
Валеры Арцішэўскі



Пасьля паляваньня. Вага ваўка справа — 76 кг. Літоўска-беларуская мяжа ў р-не Падбродзьдзя

 





# Беларусы Бранскага краю: на сумежжы трох славянскіх культураў

Працяг. Пачатак у № 38

## 2. Дасьледаваньні

Трэба адзначыць, што этнаграфічнае вывучэньне беларусаў Бранскага краю ёсьць добра распрацаваная тэма. Першая манаграфія пабачыла сьвет яшчэ на золку разьвіцьця этнаграфічнай навукі ва Ўсходняй Эўропе. У 1846 г. у Санкт-Пецярбурзе была выдадзеная малавядомая кніжка "Описание Суражского уезда Черниговской губернии" (сучасны Сураскі павет Бранскай вобласьці Расеі). Ейны аўтар — мясцовы шляхціч Г. Есімантоўскі, продкі якога аселі на сураскіх землях у пачатку XVII ст., калі гэты край зноў часова ўвашоў у склад ВКЛ[9]. У сваёй працы прагрэсыўны землеўладальнік шмат піша аб эканамічных шанцах роднага кута. У этнаграфічным раздзеле распавядалася аб мясцовых сялянах — "літвінах". Падкрэсьліваліся этнічныя маркеры адзеньня, якія відавочна адрозьнівалі літвінаў ад вялікаросаў. Гэта жаночы галаўны ўбор "намітка", мужскі ўбор "магерка". Сьцьвярджалася, што ў адрозьненьні ад "польскіх паноў" мясцовая шляхта размаўляе на мове селянаў. Цікава, што, тлумачачы незвычайную любоў сураскай шляхты да родных маёнткаў, аўтар спасылаўся на выдатны помнік старабеларускага права — Статут ВКЛ 1588 г. (!)[10]

Наступную працу аб тутэйшых беларусах — "Белорусы Смоленщіны с соседямі" падрыхтаваў у 1882 г. вядомы расейскі этнограф С. В. Максімаў. На падставе ўласных палёвых пошукаў аўтар, здаецца, упершыню абгрунтаваў унікальнасьць паўночна-заходняга кутка сучаснай Браншчыны, дзе суіснавалі ўсе тры ўсходнеславянскія этнасы. Гаворачы аб беларусах, С. В. Максімаў піша, што "северный угол Черниговской губернии (уезды Мглинскій и Суражский) населены белорусами чистого, безпримесного типа, какие однако с официальным этнонимом "белорусы" незнакомы, а зовутся "литвинами". Паводле словаў этнографа, ужо ў Бранску на кірмашы дамінавала белая магерка й кароткая вузенькая сьвітка, па якой заўсёды пазнаеш беларуса.

Безумоўна, найбуйнейшым даследчыкам беларусаў Браншчыны зьўляецца Марыя Косіч (Нар. 1850 г. у с. Расуха, Мглінскага павету, Чарнігаўскай губэрніі — пам. 28.03.1911 г. там-жа. Па бацьку — Уладзімірава, па маці — Сілевіч)[11]. Веліч ейнай постаці, каторая даўна ўжо патрабуе асобнай манаграфіі, канечне, ня месьціцца ў межы нашага артыкула. Адзначым толькі некаторыя ейныя рысы. Як цьвердзілі сучасьнікі, "побуждением к этнографическому изучению белорусов было у М. Косич так сказать, обиженное чувство народности". Звычайна адзначаюць, што на выбар шляху М. Косіч паўплываў украінскі этнограф А. Русаў, які жыў у сяле Алешня ва ўкраінскай частцы Чарнігаўскай губэрні. На нашую думку, магчымыя сувязі М. Косіч з паўстанцамі Кастуся Каліноўскага, зь якімі яна мусіла сустрэцца падчас вучобы ў Санкт-Пяцербурзе. У 1870 г. побач з Косіч у суседнім Старадубе жыў і працаваў Ф. Багушэвіч, з другага боку, у с. Слабадзішча, пражываў Ігнат Гедройц. Усе працы М. Косіч зь вялікімі цяжкасьцямі праходзілі цэнзуру. Толькі з дапамогай расейскага акадэміка А. А. Шахматава (які, дарэчы, увогуле шмат зрабіў дзеля беларусаў) у 1901 г. у часопісе "Живая старина" друкуецца манаграфія М. Косіч "Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни". У 1902 г. яна выйшла асобным выданьнем у СПб і адразу была ўзнагароджаная найвышэйшай адзнакай — залатым медалём Рускага геаграфічнага таварыства. Сёньня гэтую працу, якая лічыцца клясыкай беларускай этнаграфіі Браншчыны, абавязкова трэба перавыдаць на Бацькаўшчыне.

Значны ўклад у скарбонку вывучэньня беларусаў Браншчыны зрабіў прафэсар Санкт-Пецярбургскай кансэрваторыі А. І. Рубец. Нарадзіўся ён ва Ўкраіне, але ягонае дзяцінства прайшло у Старадубе, прозьвішча Рубец належыць старасьвецкаму мясцоваму роду. У 90-х гг. XIX ст. А. І. Рубец страціў зрок і пераехаў у роднае места. Тут ён назьбіраў вялікаю колькасьць украінскіх і беларускіх народных песьняў (выдадзеныя толькі ўкраінскія). У 1911 г. у Старадубе была надрукаваная кніга А. І. Рубца "Предания, легенды и сказания Стародубской седой старины", сёньня практычна забытая. У гэтай працы аўтар зьмяшчае дзьве ўнікальныя легенды аб літвінах Бранскага краю. Першая, запісаная у сяле Медзьведкава, прысьвечаная звычкам народу. Другая, запісаная у сяле Літоўск, уяўляе рыцарскую легенду, у якой дзейнічаюць "літоўская каралева Ядвіга, мясцовая княжна Бірута, яе дачка Радзіславна, князь Сенчыла, рыцар Врато-Смеладовіч з-пад Вільні".

Вялікую ролю у даследаваньнях нашай тэмы займаюць працы прафэсара Паўла Андрэевіча Растаргуева. Нарадзіўся П. А. Растаргуеў у Старадубе 30. 06. 1881 г. у заможнай мяшчанскай сям'і. Пасьля заканчэньня Маскоўскага ўнівэрсытэту ён застаецца працаваць у роднай установе. Навуковыя інтарэсы П. А. Растаргуева цалкам засяроджаныя на праблемах беларускага мавазнаўства. У 1918-1920 гг. ён чытае курс па беларусазнаўству ў Беларускім народным унівэрсытэце (Масква). У 1926 г. праф. П. Растаргуеў асноўны дакладчык ад РСФСР у Менску на славутай Акадэмічнай канфэрэнцыі па правапісу. У 20-ыя гг. П. Растаргуеў друкуе шэраг кніг і артыкулаў прысьвечаных беларускім гаворкам Браншчыны. Менавіта ён даў назву гэтым гаворкам "северска-беларускія гаворкі"[12]. У 1928 г. у Ленінградзе выдаецца цікавы артыкул П. Растаргуева "К характеристике говора Стародубского полка в 18 веке"[13]. У гэтай працы вырашаецца складаная мовазнаўчая праблема: украінская ці беларуская гаворка гістарычна панавала ў Старадубе й навакольлі? Выкарыстоўваючы ўнікальныя матар'ялы: паперы старадубскіх храмаў, мяшчанскіх радоў, казацкай старшыны, — аўтар робіць вынік на карысьць беларускае мовы. "При наличие в этом письменном языке значительного количества украинизмов (казацкая старшина была пришлая и употребляла украинский язык) язык населения никогда не был украинским ...а белорусским с некоторыми особенностями по своему составу". Гаворка йдзе адмыслова пра стараўкраінскую (старабеларускую) мову, якая была ўрадавай мовай Старадубскага палка ў 1650-1782 гг[14]. Звыш таго, дасьледчык адзначыў, што ў адрозьненьні ад кніг магістрата й палка царкоўныя акты створаныя на падставе беларускага дыялекту й ня маюць украінізмаў, напрыклад, словы: "Лявон", "Адарка", "Гарасім", "унук", "удава", "саракавуст".

Наступная праца належыць вядомаму беларускаму этнографу А. К. Сержпутоўскаму. Улетку 1926 г. загадам Інбелкульту ён рушыцца ў пошукавую экспэдыцыю па усходніх паветах Гомельскай губэрніі РСФСР — сучасным Навазыбкаўскім й Клінцоўскім раёнах Расеі. Мэта падарожжа — дасьледаваць напярэдадні ўзбуйненьня БССР побыт і творчасьць мясцовых беларусаў. Этнограф праехаў па шляху Мглін-Сураж-Клінцы-Добруш, наведаў шмат вёсак. Стацыянарныя пошукі былі зробленыя ў вёсках Пісарэўка й Краславічы. Урэшце, навуковец запісаў адбіткі мовы, песьні й паданьні, апісаў адзеньне, працоўныя прылады, будынкі. Была адзначаная хуткая асыміляцыя беларускага насельніцтва: "...молодёжь и побывавшие на военной службе мужчины, а также горожане говорят на смешанном белорусско-русском говоре... в Клинцах смешанное население: на первом месте идут великоруссы-старообрядцы, потом евреи и белорусы, но в их речи уже много русских слов и оборотов". Галоўны вынік А. К. Сержпутоўскага падцьвярджае працу філёляга П. Растаргуева. На думку этнографа, негледзячы на тое, што мясцовыя беларусы часцей называлі сабе "хахламі", альбо "казакамі", нічога ўкраінскага ў іхнай мове й культуры няма і ўсе даміnanты народнай культуры ёсьць беларускія[15].

Генацыд беларускай гуманітарнай навукі ў сталінскія часы адмоўна адбіўся й на лёсе дасьледаваньняў беларусаў Браншчыны. Яны цалкам спыніліся. Напрыклад, найбуйнейшы дасьледчык гэтага часу П. Растаргуеў, апынуўшыся напрыканцы 30-х гг. з прафэсара МГУ на сьціплай пасадзе загадчыка катэдры правінцыйнага Навазыбкаўскага пэдінстытуту, не надрукаваў пры жыцьці больш ніводнай працы аб тутэйшых беларусах. Толькі пасля ягонага спачыну (31. 03. 1959.) у Маскве й Менску выходзяць абагульняючыя манаграфіі[16]. У найноўшы час (50-90 гг.) вывучэньнем беларусаў у Расеі займаліся выключна філёлягі. Паступова скламіся дзьве навуковыя школы: "маскоўская" й "ленінградзкая". Прадстаўнікі маскоўскай школы (К. Ф. Захарава, В. Г. Арлова), як і папярэднікі, адносілі паўночны захад Браншчыны да арэалу беларускіх гаворак[17]. Ленінградзкая школа на чале з В. І. Чагішавай стварыла новую канцэпцыю, згодна якой беларускія гаворкі Браншчыны у сапраўднасьці асобная група паўднёварасейскіх гаворак. Напрыклад, польская калежанка В. І. Чагішавай, Н. Батожок, падкрэсьлівае, што "основную массу населения на Брянщине составляет исконно русское население, вместе с тем, сложная ситуация оставила свои следы, здесь живут потомки украинцев, белорусов, поляков, литовцев"[18]. Ленінградзкай школай падрыхтаваны вялікі слоўнік гаворак Браншчыны, але зыходны тэзіс істотна зьменьшыў, на нашую думку, ягоную навуковую каштоўнасьць. Маецца на ўвазе тое, што аўтары проста зьмяшалі вялікарускую, украінскаю й беларускую лексыку Браншчыны у вадным выданьні[19]. Нарэшце, апошнім часам гісторыяй беларусаў Браншчыны зацікавіліся дасьледчыкі Беларусі. Унікальныя матар'ялы з старажытнай геральдыкі гарадоў Браншчыны надрукаваў А. К. Цітоў[20]. Шкода, але яны амаль невядомыя бранскім даследчыкам.

**Андрэй Катлярчук**
*Slavic Institute,*
*Uppsala University,*
*Швэцыя*

*[9] Гл.: Лазаревский А. Описание старой Малороссии. Материалы для истории заселения землевладений и управления. Т.1. Полк стародубский. Киев. 1888.*

*[10] Раздзел 3. Артыкул 12; Гл.: Статут ВКЛ. Мн., 1989. Ст. 118*

*[11] Сёньня сяло Расуха, Унечанскага раёну, Бранскай вобласьці, Расея.*

*[12] Расторгуев П. В. Северско-белорусские говоры: исследования в области диалектологии и истории белорусских говоров. Л., 1927; Яго-ж: Говоры восточных уездов Гомельской губернии в их современном состоянии. Мн., 1926.*

*[13] Сборник отдела русского языка и словесности АН СССР. Т.CI. № 3. Л., 1928.*

*[14] Паводле ўспамінаў В. Г. Пуцько ў самым Старадубе вусная гаворка была ўкраінская. Трэба адзначыць што у месьце й навакольлі захавалася шмат цудоўных помнікаў украінскага барока.*

*[15] Отчёт о поездке в Гомельскую губернию в 1926 году. Менск. 1926.; Касько У. К. Сьвятло далёкае зоркі. Мн., 1997.*

*[16] Расторгуев П. А. Говоры Смоленщины. М., 1960; яго-ж: Словарь народных говоров Западной Брянщины. Мн., 1973.*

*[17] Захарова К. Ф., Орлова В. Г. Диалектное членение русского языка. М. 1970. С. 34.*

*[18] Botozok N. Leksykalne i semantyczne aspekty analizy porownawczej blisko pokrewnych gwar. Olsztyn. S. 15.*

*[19] Брянские говоры.// Под ред. В. И. Чагишевой. Вып. 1-4. Л., 1970-1975.*

*[20] Цітоу А. Геральдыка беларускіх местаў (XVI - пачатак XX ст.). Мн., 1998.*

# Тэрарызм як мэтад дзяржаўнай палітыкі

Яўген Ліцьвін

З самага пачатку гісторыі цывілізацыі чалавек сутыкнуўся з тэрорам. Асабліва яскрава ён праяўляўся пры ўварваньні іншаземных захопнікаў на этнічна аднародныя землі. Чужыя мова, рэлігія, вонкавае непадабенства *ворагаў* на *нашых* выклікалі самыя жахлівыя праявы міжчалавечых адносінаў. Зразумела, што той, хто асмельваўся ажыцьцяўляць тэрор, павінны быў быць дастаткова моцны, каб разьлічваць на сваю беспакаранасьць. Але заўсёды былі выпадкі тэрору й з боку тых, хто цярпеў паразку. Тых, хто выбраў тэрор з роспачы й адчаю, мы зараз называем японскім словам *камікадзэ*. Аднак і іх можна зразумець — успомнім словы песьні: "Враги сожгли родную хату, убили всю его семью..."

Са зьяўленьнем выбуховых рэчываў пачалося разьвіцьцё тэрору з боку нешматлікіх рэвалюцыйных радыкалаў. Хаця свае бомбы яны накіроўвалі ня супраць насельніцтва, а супраць асобных прадстаўнікоў уладаў, на ніякую народную падтрымку, зразумела, ім разьлічваць не даводзілася.

Такім чынам, існуюць два накірункі масавага тэрору: з боку маргіналаў, мэта якіх найперш заявіць аб сабе, як аб сіле, і з боку ўлады, якая адчувае сваю беспакаранасьць. І ў тым, і ў другім выпадках тэрарыстычнымі мэтадамі пры доступе да сучасных тэхналёгіяў даволі такі лёгка стварыць у грамадзтве атмасфэру жаху й неўпэўненасьці ў заўтрашнім дні.

Як гэтага дамагчыся? Дастаткова ажыцьцявіць некалькі выбухаў са шматлікімі ахвярамі ў мейсцах масавага знаходжаньня людзей, лепей за ўсё ў шматкватэрных будынках. Зразумела, у вялікіх гарадох, лепш за ўсё — у сталіцы. А каб напалохаць усю краіну — і ў адным-другім іншым мейсцы.

Зразумела, ужо пасьля першых выбухаў наступныя зрабіць будзе цяжэй — насельніцтва ўсёй краіны будзе пільнаваць за падазронымі асобамі, а можа й схапіць каго-небудзь за руку.

Мы памятаем, як інфармацыйныя агенцтвы аб'явілі, што ў адным расейскім горадзе знойдзенае выбуховае прыстасаваньне, аналягічнае тым, што ўжо некалькі разоў выкарыстоўваліся тэрарыстамі. Даволі хутка выявілі й тых, хто яго ўстанаўліваў, і нават затрымалі...

Потым была невялікая пярэрва, а ўжо праз суткі тыя самыя палкоўнікі, якія на ўвесь сьвет сцьвярджалі, што знойдзены тры мяхі з гексагенам і выбуховае прыстасаваньне, аб'явілі, што схопленыя аказаліся супрацоўнікамі расейскай ФСБ (зараз так называецца КДБ, калі хто ня ведае), якія праводзілі "*очередные учения*", а ў мяхах быў самы звычайны цукар, і таму "хваляваццa ня трэба".

Напрацягу дваццатага стагодзьдзя ў розных краінах сьвету йснавалі шматлікія тэрарыстычныя арганізацыі. У некаторых было толькі па некалькі чалавек, іншыя былі даволі шматлікія, якія дзейнічалі дзесяцігодзьдзямі й забілі нямала дзяржаўных чыноўнікаў, вайскоўцаў, паліцэйскіх ці проста мірных жыхароў. Але толькі адной з такіх арганізацыяў удалося зьнішчыць больш за 35 мільёнаў чалавек толькі ў сваёй краіне! (Матар'ял пра гэта можна знайсьці на трэцяй старонцы нашага нумару).

Але памятайма, што ў Савецкім Саюзе "органы" ніколі не былі ўсясільныя — імі заўсёды кіраваў партыйны апарат. Цяпер, як-бач, такога абмежаваньня няма. Прэзыдэнт Расеі ў выступе перад сваімі "*былымі*" супрацоўнікамі (я лічу, што *былых* гэбістаў не бывае) сказаў, як-бы жартам: — "*Товарищи, докладываю, что задание по взятию власти выполнено!*"

Адкрыты чалавек гэты прэзыдэнт Пуцін, ці ня так? Падзеі апошніх гадоў ў Расеі, Беларусі ды іншых краінах СНД — зьнікненьні, забойствы вядучых палітыкаў і журналістаў, дзіўныя "няшчасныя выпадкі", якія здараюцца апошнім часам, дазваляюць разважаць пра тэрарызм, як пра адну з асноўных частак дзяржаўнай палітыкі сёньняшніх уладаў. Калі дадаць сюды вайну ў Чачэніі, дык выглядае на тое, што мы цяпер у Літве жывем у *прыфрантавой дзяржаве*. А ў Беларусі, у выпадку магчымага аншлюсу з боку Расеі, ёсьць шанец хутка апынуцца ў *дзяржаве ваюючай*. І калі ўлады выкарыстоўваюць тэрор як дзяржаўную палітыку, гэта значыць, што народ ім гэта дазваляе.

 

Вядомы ўкраінскі паэт **Зьмітро Фалькіўскі** (1898—1934), колішні чэкіст, сам стаўся ахвярай першых сталінскіх рэпрэсіяў. У сваіх вершах ён, як ніхто, праўдзіва адлюстраваў жахлівыя рэаліі грамадзянскай вайны ва Ўкраіне й Беларусі. Рэалістычная манэра пісьма збліжае ягоныя вершы з франтавымі вершамі знакамітага француза Гіёма Апалінэра й нашага дасюль неацэненага паэта Алеся Смалянца. Дадамо, што Фалькіўскі (сапраўднае прозьвішча Ляўчук) нарадзіўся на Берасьцейшчыне ў вёсцы Лепесы пад Кобрынам.



* * *

А ён стаяў тады панура;
І рукі скручаныя ззаду...
І толькі месяц каля мура
Склікаў сясьцёр сваіх на раду.
У позірку — журба й пакора...
І ціха:
— Дайце дакурыць. —
Яшчэ праз хвілю — тварам ўгору,
Прашыты куляю, ляжыць.
Даўно было... Было багата...
Ды ў мяне-ж кроў — ня як у рыбы...
Ну, чым-жа, чым я вінаваты,
Што трошкі, толькі трошкі схібіў?..
Хацеў у лоб...
Дрыжэлі рукі...
А за сьцяною стэп шырокі.
Пусьціць?
Дык я-ж чэкіст...
Ах, мукі!..
І збрыджанае куляй вока...
*1926*

* * *

І вось ударылі гарматы —
І высьпелы авёс дрыжыць.
А за аўсом, дзесь каля хаты,
Праклёны, лён і выдых: — Жыць!

І зноў ударылі гарматы,
І жыта раптам ажыло —
Б'юць кулямёты: — та-ту!.. та-ту!..
Я болей не прыйду ў сяло.

І ў трэці раз грымяць гарматы,
І замаўчала ўсё і ўсе:
І тыя ў ямах, каля хаты,
І тыя ў жыце, у аўсе...

Калі-ж яшчэ раз прагрымела
Далёкая пальба гармат —
Крывавы згустак замест цела
І папялішча замест хат...

А там, дзе ціха лён шлапоча,
Чыясьці галава ў жудзе
Ўтаропіла ў сінечу вочы,
Зямлю праклаўшы і людзей.
*1926*

* * *

І выкапалі дол глыбокі,
І ў яму труп за трупам — бах!
Адных старчма, другіх упокат,
Трэціх — абы не на нагах...

І так пласт за пластом — магіла:
Пяцьсот... Шэсьцьсот... усё адно:
Усіх навекі напаіла
Сьмерць абыякая віном.

Калі-ж апошні пласт паклалі,
Паслалі зьверху шынялі,
І — сьпяць героі з "Калевалы",
Сыны абшарпанай зямлі.

І гэта ўсё... Спакойна, млява
Ля мёртвых селі грабары
І, выцягшы махру з халявы,
Зь іх кожны моўчкі закурыў.

А потым уваткнуў хтось збоку
Іржавае лязо штыка
І напісаў навідавоку:
"Стралкі NN-скага палка"...
*1927*

* * *

Сыйшліся двое на багнэтах:
Сівагаловы й малады;
Старэйшы: — Сынку! — з-пад кашкета...
Малодшы: — Бацьку, адыйды!

Сыйшліся й сталі на хвіліну,
Чакае на курку рука,
Кашкет маўчыць, глядзіць на сына,
А сын трымціць як асака.

На тварах, скошаных ад злосьці —
Ня боль, ня стома — дзікі сказ:
— Ну хоць-бы ўжо рашыўся хтосьці!
Хоць-бы за раз!

Чакалі-б доўга бацька з сынам
(Ў вачох крывавы пераліў),
Ды хтосьці з кулямёта ў сьпіну
Абодвух зьбіў...
*1927*

* * *

І дзень мінуў... Зноў цемра гаспадарыць,
На бляды ветах хмары напаўзьлі,
А цені хвой, як страшныя пачвары,
Гайсаюць па рудой і збрыджанай ральлі.
Зямля хрыпіць: — Ах, дайце, дайце плуга! —
І ў скарзе рукі ўгору прыўзьняла,
А ейны смутак падхапіў вятруга
І кліча ратая з далёкага сяла...
Ды ён маўчыць... маўчыць і не прачнецца, —
Ці лета, ці зіма, ці спорная вясна:
Ўжо трэці год савіны крык снуецца
Па хвоях, па ральлі...
— Вайна!
*1927*

* * *

Хілілася да зараніцаў далеч,
Цьвілі крывавыя палі вайны, —
А час ляцеў (колькі ня бі ў званы!),
Як цягнікі ў нямое завакзальле...

І ўжо ня чуць гарматных вакханалій,
Ні стуку кулямётнай гаманы,
І толькі, можа, косьці з баразны
Пра бой раскажуць сашніковай сталі...

Дый шчэ хіба над рэшткамі рушніцы,
Дзе просіні калосяцца над полем,
Счарнелая рука застыне з болем,
Жнучы тугое золата пшаніцы:

То маці, выцягшы з ральлі клінок багнэта,
Прамовіць ціха:
— Вой, сыночку, дзе ты?
*1927*

*Пераклаў* ***А.М.***



*Выцінанка Т. Маркавец*

Лілея Сазанавец — беларуская журналістка, пісьменьніца й перакладчыца. Вымушаная была ратавацца ад лукашэнкаўскага рэжыму. Арыштоўвалася ўладамі падчас выкананьня абавязкаў сябра Цэнтральнай выбарчай камісіі ў выбарах прэзыдэнта ў 1999 г. Старшыня гэтай камісіі Віктар Ганчар зьнік восеньню 1999 г. Лёс ягоны дагэтуль невядомы. Часова жыла ў Вільні разам з сям'ёю. Тут Лілея працавала прэсавай сакратаркай Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага й на радыё "Балтыйскія хвалі". Месяц таму разам з мужам і дзецьмі зьехала ў Канаду. Мы ўжо друкавалі ў "Руні" эсэ Лілеі Сазанавец "Тыран" і ейны пераклад зь нямецкай знакамітага твору жыдоўскага пісьменьніка Цьві Колітца "*Зварот да Бога Езеля Раковера*". Прапануем новае апавяданьне пісьменьніцы.

# ДУША ТЫРАНА

Тыран паміраў. Ён ляжаў адзін-адзінюткі на шырачэзнай канапе ў агромністым пакоі свайго велізарнага замку. Побач зь ім нікога не было. Там, за дзьвярыма, стаялі й чакалі ягонай сьмерці былыя хаўрусьнікі ды падначаленыя. Яны баяліся яго, нават такога нямоглага. Баяліся, але зь нецярплівасьцю чакалі, калі-ж, нарэшце, ён памрэ. Тыран гэта ведаў. Праз доўгія гады панаваньня ён добра вывучыў натуру рабоў. Яны ненавідзелі, але толькі здалёк.

Душа Тырана таксама зь нецярпеньнем чакала, калі-ж ужо яна зможа выслабаніцца з гэтага пачварнага, старога, брыдкага Цела. Напачатку гэтае Цела цалкам задавальняла Душу. Цела было моцнае, наганяла жаху цэламу народу. Штопраўды, той народ нават і не здагадваўся, што яно толькі падпарадкоўвалася загадам Душы. Але настаў час і Цела зьнасілася. Яно ўжо не магло выконваць загадаў Душы – магло адно толькі ляжаць як спарахнелае, сточанае шашалем палена. Душа пачала маркоціцца ў такім Целе й пастанавіла пакінуць яго. Але зрабіць гэтае было ня так проста. Так сталася, што Душа, занадта доўга жывучы ў Целе, звыклася зь ім. Яно не адпускала Душу, змагалася за іхны, дагэтуль непарушны, хаўрус.

І Душа, так доўга кіруючы Целам, аддала яму шмат моцы. Мо з той прычыны яна вырашыла даць сабе невялікі перадых, адпачыць, набрацца новых сілаў, а пасьля ўжо выслабаніцца канчаткова... Вось гэта й быў акурат той пэрыяд, калі Тыран ужо ня мог кіраваць і наганяў жаху хіба-што сваім выглядам ды ўспамінамі пра былую магутнасьць. Ён ужо ня жыў, але яшчэ й не памёр.

* * *

Сьвяты Пётра сёньня быў ня вельмі заняты. Прыняў зранку толькі некалькі Душаў, адну зь іх адразу-ж выправіў да варотаў насупраць — у пекла. Уладальнік той Душы быў надта вялікім выпівохам пры жыцьці. І памёр ад таго, што напіўся, не дайшоў да хаты ды замерз пасярод поля. Ад Душы таго выпівохі гэтак патыхала гарэлкай, што Сьвятому Пётры ажно захацелася зьесьці салёнага гурочка. Там, за варотамі, у раі, была адна Душа, якая ўмела вельмі адмыслова засольваць іх. Сьвяты Пётра вырашыў патэлефанаваць, каб Анёлы прынесьлі яму колькі крамяных, хрумсткіх гурочкаў, ўзяўся ўжо нават за тэлефонную слухаўку, але тэлефон зазьвінеў сам. Пётра ссунуў з правага вуха навушнік ад плэеру (ён, каб ня гэтак самотна было сядзець на дзяжурстве пры райскай браме, слухаў музыку, звычайна, клясыку: якніяк век у Сьвятога Пётры быў ужо не малады).

Усемагутны на тым канцы слухаўкі запытаўся:

– Пётра, што там у цябе робіцца? Што, нейкая дрэнная Душа ломіцца ў вароты?

– Ламілася тут адна, – адказаў Сьвяты Пётра, – але я яе прагнаў. Выправіў у пекла, куды ёй і дарога.

– Ды не. Пра тую Душу я ведаю. А зараз каля цябе нікога няма? Нешта мне нядобрыцца, як заўсёды, калі ў рай хоча патрапіць нядобрая Душа.

Сьвяты Пётра агледзеўся па баках. Побач нікога не было.

– Не, Усемагутны, няма тут нікога. Можа, гэта магнітныя навальніцы? Кажуць, што ад гэтых навальніцаў надта галава баліць, асабліва ў тых, хто мэтэаўспрымальны.

– Ну што ты, Пётра, якія навальніцы? Я-ж ведаю пра надвор'е ўсё. Мне прыносяць прагноз кожную раніцу. Тут іншае. Адчуваю я, што надта-ж ужо дрэнная Душа набліжаецца да нас. Паглядзі там па баках.

– Ой, праўду кажаш, Усемагутны, – усхвалявана адказаў Сьвяты Пётра, – бачу на радарах нейкую кропку. Напэўна, гэта яна, тая Душа. Я таксама нешта пачаў дрэнна пачувацца. Але канец сувязі, бо яна, гэтая Душа, набліжаецца!

Сьвяты Пётра не пасьпеў пакласьці слухаўку, як каля яго апынулася Душа. Яна, не зважаючы на Апостала, упэўнена й нахабна скіравала да брамы. Сьвяты Пётра падабраў крысо сваёй доўгой белай кашулі ды подбегам кінуўся за Душою:

– Ты куды, мілая? Табе туды нельга! Спачатку я павінен вырашыць, ці можна дапускаць цябе ў рай.

Душа зьедліва аглядзела старэчую постаць Сьвятога Пятра, потым адхіліла яго ўбок ды пашыбавала далей. Сьвяты Пётра трушком, пабразгваючы ключамі ад райскай брамы, скіраваўся ўсьлед. Душа ўхапілася за ручку варотаў ды паспрабавала іх адчыніць. Тыя не паддаваліся. Сьвяты Пётра пасьміхнуўся:

– Што, аблом атрымаўся?

На жаль, да Сьвятога Пётры калі-нікалі траплялі падлеткі й зусім малыя дзеці. Слову "аблом" Сьвяты Пётра навучыўся ад Душы аднаго хлапчука, які загінуў пры трагічных абставінах. Тая Душа даўно ўжо ачысьцілася ды зьбірала зараз у райскім садзе яблыкі, забылася пра ўсе дрэнныя словы, якія ведала на Зямлі. А Сьвяты Пётра аніяк не мог вытравіць са сваёй памяці гэтае слоўца. І Ўсемагутны яго ўжо ўшчуваў, і сам Сьвяты Пётра ведаў, што гэта дрэнна, але нічога з сабою зрабіць ня мог, асабліва, калі хваляваўся.

Душа скасавурылася на Сьвятога Пётру, нешта незразумелае прамармытала й працягвала ламіцца ў вароты. Толькі праз некалькі хвілінаў да яе нарэшце дайшло, што яна займаецца марнатраўствам. Тады яна гыркнула на Сьвятога Пётру:

– Адчыні браму! Чуеш?!

Але Сьвяты Пётра ўжо ачомаўся ад нечаканасьці й адказаў як мага спакайней:

– Не, даражэнькая, табе сюды дарогі няма й наўрад ці калі будзе. Табе патрэбна вунь туды.

Сьвяты Пётра бразнуў ключамі ды паказаў на вароты, што вяклі ў пекла. Там стаяў Люцыпар і зь нецярплівасьцю прытопваў сваімі ценькімі крывымі ножкамі, чакаў жаданую госьцю. Тая аглядзела яго з ног да галавы, дакладней, з капытоў да рожкаў, неяк не зусім упэўнена накіравалася была ў ягоны бок. Але да самога Люцыпара не дайшла. Пасярод свайго шляху прыпынілася, пачухала патыліцу ды пашыбавала назад, на Зямлю.

*Працяг у наступных нумарах*

УСПАМІНЫ

# Там, дзе мяне няма...

*Працяг. Пачатак у №№ 36 - 38*

6. Пабудова новага дому ў Раванцах. Пачатак нямецка-польскай вайны. Зьмены ўладаў у Вільні і ў ВБГ.

Мой брат Тонік вучыўся ў гэтым часе ў тэхнічнай школе, ён і надалей сябраваў з Глебам Багдановічам, ужо студэнтам мэдыцыны. У 1938 г. бацькі прадалі дом у Калёніі й купілі 1 га зямлі ў Раванцах. Дзялянка ляжала ў лесе, часткова была зарослая хмызьняком. Бацька з братам і наёмнымі рабочымі пачалі будаваць дом зь мяйсцовых матар'ялаў. Камяні на падмурак знаходзілі ў лесе, іх разьбівалі й зрабілі моцны падмурак. Сьцены рабілі з гліны - бацька ведаў такія будоўлі на Ўкраіне. Клаўся пласт гліны, утрамбоўваўся, на яго скосна клалі грубы хвораст, тады зноў пласт гліны й г. д. Сьцены атрымаліся грубыя, амаль мятровыя. Каб назіраць за будовай, збудавалі склад, у якім мужчыны па чарзе начавалі. Сям'я наша спачатку наняла кватэру ў Раванцах, а пасьля на Воўчай Лапе (Вілкпядзіс).

Вясною 1939 г. я скончыла 6 клясу пачатковай школы й паступіла ў польскую гімназію імя Ажэшкі. Бацькі вырашылі, што ў бел. гімназіі, якая была спалянізаваная й частка прадметаў у якой, як гісторыя, геаграфія ды інш., вялося на польскай мове, узровень навучаньня ніжэйшы, чым у польскай гімназіі. Аднак вучыцца тут мне не давялося – 1 верасьня таго самага году гітлераўская Нямеччына разьвязала вайну супраць Польшчы. Не памаглі "флірты" польскіх уладаў з гітлераўцамі: міністар замежных справаў Нямеччыны Рыбентроп прыязджаў на запрашэньне міністра замежных справаў Польшчы Бека на паляваньне ў Белавежу. У польскіх падручніках канца 30-х гг. вялася непрыкрытая прапаганда гітлераўскага рэжыму. Хвалілі нямецкі парадак, арганізацыі моладзі "Hitlerjugend" і "Bund der deutsche Madchen", абавязковую працу пасьля сканчэньня школы, новыя аўтастрады, алімпійскія гульні 1936 г., якія адбыліся ў Бэрліне, ды шмат што іншае. Пра арышты, канцлягеры, эміграцыю, перасьлед жыдоў, ясна, ні слова. Зрэшты, антысэмітызм вельмі моцна адчуваўся і ў самай Польшчы. Нават такі часопіс як "Практычна Пані" заклікаў да байкоту жыдоўскіх крамаў.

Палякі лічылі, што маюць добрае войска, гатовае абараніць Польшчу: "Не оддамы ані гузіка!" Аказалася, што нямецкая армія шмат лепш узброеная й падрыхтаваная. Немцы пёрлі наперад, разьбіваючы палякаў. Баранілася "Вэстэрплятэ" на ўзьбярэжжы мора. Невялікая вайсковая частка трымалася, не зважаючы на атакі з мора, паветра й сушы. Баранілася Варшава, дзе абаронай кіраваў мэр гораду Стажыньскі. 16 верасьня мы з братам былі ў кіне, пасьля сэансу на вуліцы спатыкалі купкі вясёлых польскіх афіцэраў. "Насі гура!" – недзе палякам удалося адбіць атаку немцаў і ім здавалася, што гэта пачатак пералому ў вайне... А 17 верасьня Чырвоная Армія акупавала Заходнюю Беларусь і Ўкраіну. Тады ніхто ня ведаў пра "Пакт Молатава – Рыбентропа", які фактычна быў 4-ым падзелам Рэчы Паспалітай. Для палякаў напад Савецкага Саюзу быў як нож у сьпіну, хто мог, уцякаў у Літву. Кс. Адам Станкевіч, каторы меў нямала сяброў сярод літоўцаў, прапанаваў і Антону Луцкевічу перайсьці разам зь ім літоўскую мяжу. Але Луцкевіч адмовіўся. Ён нават выступіў з прамовай на мітынгу на Лукіскім пляцы. Неўзабаве пачаліся арышты: арыштавалі А. Луцкевіча, сэнатара В. Багдановіча, пасла Ф. Ярэміча, У. Самойлу й шмат іншых... А Вільня рыхтавалася да рэфэрэндуму – каму дастанецца горад, БССР ці Літве.



Уваход літоўскага войска ў Вільню 29 кастрычніка 1939 г.

*Здымак Вітаўта Аўгусціна*

У Віленскай Беларускай Гімназіі таксама адбыўся безпрэцэдэнтны выбар дырэктара: быў зьняты пастаўлены польскімі ўладамі й прапольскай арыентацыі Кававалевіч, а замест выбраны настаўнік матэматыкі Барыс Кіта (Кіт). У гімназіі зьявілася шмат новых вучняў, я таксама пайшла вучыцца ў ВБГ.

І вось нечаканая навіна – Сталін пастанавіў перадаць Вільню літоўцам. Літоўцы, ясна, усьцешыліся - збылася мара зрабіць Вільню сталіцай Літвы. Але тыя, хто ўмеў думаць і разумеў сытуацыю, зналі: "Вільнюс мусу, о мяс русу!" ("Вільню нам, а нас рускім!"). А тымчасам у горад увайшла літоўская армія. Мяйсцовыя літоўцы сустракалі яе з энтузіязмам, але бальшыня жыхароў Вільні, асабліва палякі – са зьдзекамі. Праўда, і літоўскае войска было марнае – пару танкетак езьдзіла ўкруг, каб стварыць уражаньне, што іх ёсьць шмат. Было некалькі гарматаў. Адзінае, што выглядала салідна, быў абоз – адкормленыя блісkучыя коні цягнулі вялікія цяжкія вазы.

Хутка ў горадзе зьявілася шмат літоўскай паліцыі, а паліцыянты былі ўсе высокага росту, ня менш 190 см, шыракаплечыя, у сініх мундзірах з залатымі гузікамі й чырвонымі кантамі, парадныя шапкі былі аздобленыя конскімі хвастамі. Выглядала гэта неяк апэрэтачна. Пачаліся праблемы з мовай, мала хто разумеў, што яны там гавораць. Затое ў горадзе зьявіліся прадукты, якіх апошнім часам не ставала: мяса, кілбасы, малако, сыр.

У ВБГ зноў адбыліся вялікія зьмены. Калі стала ведама, што Вільню перадаюць Літве, дырэктар Барыс Кіта з большасьцю вучняў выехаў у Навагрудак. У Вільні засталося так мала вучняў, што ўдалося скамплектаваць толькі дзьве малодшыя клясы – была гэта ўжо не гімназія, а прагімназія, і ейным дырэктарам зрабіўся Адам Станкевіч.

Мы ўвосені перабраліся ў сваю хату, хаця яна яшчэ была недабудаваная. Бракавала шкла да падвойных вокнаў, была пліта з сьценкай, што выходзіла ў вялікі пакой, але печкі не было, столь не была дастаткова ўцепленая. Зіма-ж 39/40 гг. была суворая, трымаліся маразы да 30 градусаў, тою зімою памерзьлі сады, а ў горадзе, у парках, каштаны й акацыі. У нашай хаце было вельмі холадна, раніцай на кухні замярзала вада. Замест печкі (каб купіць цэглу й кафлю, не было грошаў) паставілі "буржуйку", труба ад якой цягнулася праз пакой да коміна, палілі яе дзень і ноч дубовымі дровамі. (Бацька з братам пілавалі сухія дрэвы або сукі зь вялікіх дубоў). Аднак усё роўна было холадна. Бабуня Міла большую частку зімы праляжала ў ложку. Але ніхто не прастудзіўся й не захварэў.

Галіна Войцік

Разсыланьні з http://subscribe.ru:
*http://subscribe.ru/catalog/country.by.run*
*http://subscribe.ru/catalog/history.kratkijkurs*
*http://subscribe.ru/catalog/news.charter97*

## Мой погляд на
# Беларускі Музэй у Вільні

"Рабі пільна — кругом будзе Вільня!", як той казаў. Але мы, беларусы, не паслухаліся, рабілі, відаць, ня пільна, усё ня тое ды ня так, і цяпер ня толькі кругом сябе ладу ня маем, але й самую Вільню амаль цалкам страцілі. Страта гэтая сталася для нас велізарнаю нацыянальнаю праблемаю. Але яшчэ й сёньня мы маем шанец вырашыць для сябе праблему Вільні. Вырашэньнем гэтай праблемы, на мой погляд, павінная займацца ўся беларуская нацыя на ўсіх узроўнях: дзяржаўным, урадавым, грамадзкім, навукова-гістарычным, бізнэсовым. Прычым намаганьні ў гэтым кірунку трэба прыкладаць незалежна ад таго, будзе ў Вільні мяйсцовы беларускі рух мацнець ці слабець, будуць летувіскія ўлады спрыяць нам ці замінаць.

Я хачу тут закрануць пэрспэктывы культурнага вяртаньня Вільні да Беларусі. Вільня сёньня можа й павінная адыйграваць для беларусаў у Беларусі дый ва ўсім сьвеце ролю самага буйнога й арыгінальнага замежнага цэнтру культурнай асьветы, гуманітарнай адукацыі, навукі, турызму. Нагадаю, адкуль вынікае гэткая адмысловая роля Вільні.

Па-першае, зь Вільняю зьвязаная ўся наша папярэдняя гісторыя. Гэтая акалічнасьць адбілася ў нашай гістарычнай (калектыўнай) памяці, нацыянальнай сьведамасьці, мэнталітэце. Кожная спроба гвалтоўна парушыць нашыя сувязі зь Вільняй, выкрэсьліць з нашай памяці згадкі пра яе прыводзілі й прыводзяць да хваравітых парушэньняў ва ўсім беларускім нацыянальным арганізме. Прыклад — стварэньне БССР, "вылегчанага" варыянту нашае гісторыі, дзе цалкам былі адкінутыя старажытныя традыцыі беларускае дзяржаўнасьці ды культурнае спадчына цэлых рэгіёнаў і нацыянальных групаў.

Па-другое, у Вільні, дзякуй Богу, захаваліся й дагэтуль зьберагаюцца найвялікшыя нашыя нацыянальныя каштоўнасьці: архітэктура, музэйныя, мастацкія, кніжныя, архіўныя калекцыі. Уся Вільня для нас сёньня фактычна — адзіны суцэльны музэй.

Па-трэцяе, беларушчына ў Вільні цалкам яшчэ ня зьнікла. Сьведамыя віленчукі сёньня згуртаваліся ў разнастайныя грамадзкія арганізацыі, каторыя, не зважаючы на мізэрную падтрымку летувіскай ды беларускай дзяржаваў, вядуць, як могуць, культурна-асьветную працу. У Вільні йснуюць арыгінальныя сацыяльныя фэномэны, г. зв. "віленскія дзяды" (рэштка ацалелай пасьля сталінскіх "чыстак" беларускай віленскай інтэлігенцыі) й "эміграцыя" сьведамай і, як правіла, творчай інтэлігенцыі зь Беларусі. Напрацягу 10 гадоў незалежнасьці ім у складаных матар'яльных умовах удалося адрадзіць на Віленшчыне беларускі друк, кнігавыданьне, школьніцтва, касьцёл, стварыць беларускае радыё й тэлевізію. На жаль, яны без падтрымкі звонку ня могуць сёньня праз неспрыяльныя (перадусім матар'яльныя) варункі паўнакроўна пашыраць беларушчыну сярод сотняў тысячаў нашых спакрэвічаў у Вільні й Віленскім краі, г. зв. "пашпартных беларусаў", "рускамоўных", "касьцельных палякаў".

Па-чацьвертае, Вільня й Віленшчына доўгі час былі й ёсьць адміністрацыйна адлучаныя ад Беларусі, і таму захавалі пэўную аўтаномію ад пануючага у БССР (а цяпер і ў РБ) дыктату ідэяў, нораваў, законаў. Віленская Беларусь заўсёды мела й мае раскошу быць іншай, арыгінальнай Беларусьсю. Прычым гэты "прывілей" Вільні варта было-б захоўваць і надалей.

Па-пятае, Вільня ёсьць вялізны "кацёл", у каторым кіпіцьварыцца надзвычай складаная й, напэўна, надта-ж смачная страва: тут напрацягу стагодзьдзяў інтэнсыўна перасякаюцца й пераплятаюцца этнічныя, палітычныя, культурныя працэсы, што стварае ўдзячную глебу як для дасьледчыкаў, так і для практыкаў.

Такім чынам, можна быць упэўненым — Вільня будзе заўсёды вабіць беларусаў. Кожны, хто хаця-б збольшага азнаёміцца з праўдзівай гісторыяй Беларусі, немінуча паўторыць словы нашага клясыка:

***Аддайце славу нашу нам!***
***Нашто схавалі-расхапалі?***

І немінуча захоча адшукаць сваю слаўную Вільню. Паехаць — і самому адшукаць. Прычым, што істотна, сам захоча, без прымусу. Ім будзе кіраваць той закон, што ёсьць часткі, безь якіх цэлае ня можа йснаваць: як чалавек без галавы... І гэты стыхійны працэс мы, віленчукі, ужо сёньня назіраем. Незважаючы на мяжу, візы ды іншыя перашкоды, паток "шукальнікаў Вільні" зь Беларусі штогод нарастае, і найбольш у гэтым патоку — сьвядомай беларускай моладзі.

А што-ж найперш дзеля вырашэньня Віленскай Праблемы трэба зрабіць супольнымі намаганьнямі як тутэйшых беларусаў, так і беларусаў усяго сьвету? Вось тут мы й падыйшлі да галоўнага: да стварэньня, а, дакладней, да адраджэньня Беларускага Музэю ў Вільні. Маю на ўвазе адраджэньне Музэю імя Івана Луцкевіча й - пажадана - у даўнейшай ягонай сядзібе, у Базылянскіх мурох.

Зрэшты, не абавязкова ў Базылянскіх мурох — прыдасца й добрае памешканьне ў Старым Горадзе. І наўрад-ці ўдасца аднавіць Музэй у былым выглядзе, сабраць у вадно экспанаты, аднавіць інтэр'еры. Няхай гэта будзе Музэй Беларускага Адраджэньня ХІХ-ХХ ст. ст. Такі, галоўны Беларускі Музэй у Вільні акурат цяпер яшчэ можна стварыць. А ягонымі філіямі маглі-б стаць мэмарыяльныя музэі Якуба Коласа, Зоські Верас, Цёткі, Пётры Сергіевіча дый шмат якія іншыя.

Але-ж экспанаты нашае гісторыі (і ня толькі зь Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча) знаходзяцца ў летувіскіх музэях і архівах. Толькі вось інтэрпрэтацыя гістарычных фактаў і, адпаведна, экспанаваньне музэйных рэчаў і дакумантаў у іх спэцыфічнае, летувіскае. Аднак, мы маем права называць рэчы сваімі найменьнямі — "Літва" — старажытная назва нашай дзяржавы, "літоўскія" паясы — нашыя "слуцкія" паясы й г. д., — тады кожнаму беларусу будзе цікава хадзіць па віленскіх музэях.

Гэтаксама, дарэчы, можна стварыць у Вільні й "Музэй беларускай архітэктуры". Напачатку ў адумысловай залі з дапамогаю мапаў, малюнкаў, фатаздымкаў, макетаў экскурсантаў пазнаёмяць зь Беларускай Вільняй, а потым можна будзе цэлы дзень блукаць па жывым музэі-горадзе. Да таго-ж і першая кніга-спадарожнік з гатовымі маршрутамі ўжо напісаная — гэта "Вандроўкі па Вільні" Лявона Луцкевіча, нашчадка слынных Івана й Антона Луцкевічаў...

Для віленчукоў Вільня — мейсца працы, вучобы, клопатаў і адпачынку, а для беларусаў па-за Вільняй яна ўся ёсьць Музэй.

**Сяржук Вітушка**

# Помні Чарнобыль!







**Чарнобыльскі трыпціх.** ***Фотамастак Анатоль Кляшчук***

**Усіх Беларусаў**
дзе-б яны не жылі, ці-то на Бацькаўшчыне, ці-то па-за ейнымі межамі – па ўсім сьвеце, вітаю з 25-ым Сакавіком! Большасьць беларускіх земляў зь ягоным насельніцтвам апынулася за цяперашняй палітычнай граніцай нашай Айчыны. У гэты Найвялікшы Дзень успомнім тых, хто ад усялякіх драпежных рэжымаў, у лакутах, заўчасна адыйшоў у Вечнасьць у змаганьні за Родны Край, каб жыла Бацькаўшчына. Яны ведалі, што "І Дарагабуж недзе ляжыць на Беларусі". Паміж Масквой і Варшавай: Беласточчына, Віленшчына, Дзьвіншчына, Смаленшчына, Чарнігаўшчына, – гэта Беларусь! На жаль, многія беларусы "Родную мову вырвалі з хаты й замянілі моваю чужою". Дык "Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, Не давайце чужынцамі быць!" Беларусы, "Не пакідайце роднай мовы Беларускай, каб ня ўмерці!" Жыве Беларусь у сваіх Этнаграфічных Граніцах!

Ніна Абрамчык
*Парыж*

**Усім беларусам Віленшчыны**
жадаю здаровага, радаснага Вялікадня! Сёлета мы асабліва просім Госпада, каб нарэшце памог нашай Радзіме Волю й Незалежнасьць здабыць. Хрыстос Уваскрос! Жыве Беларусь!

Кастусь Акула
*Канада*

**Трэці зьезд беларусаў сьвету**
"Беларусь і беларусы на мяжы тысячагодзьдзяў" адбудзецца ў Менску 5-6 ліпеня 2001 г. Сустаршынямі зьезду абраныя сп. сп. Радзім Гарэцкі, Вітаўт Кіпель, Валеры Герасімаў, Іван Саверчанка. Мэта зьезду – кансалідацыя беларускай нацыі, умацаваньне грамадзянскай супольнасьці, акрэсьленьне пэрспэктываў разьвіцьця Беларусі ва ўмовах цывілізацыйных зьменаў. Задачы зьезду: абмеркаваньне праблемаў беларускай дыяспары й іх вырашэньня; асэнсаваньне гістарычнай ролі беларускай дыяспары ў сучаснай цывілізацыі, агульнае й спэцыфічнае; усталяваньне шчыльных шматузроўневых кантактаў і разнабаковых дачыненьняў паміж беларусамі сьвету, беларускімі суполкамі й арганізацыямі; дыскусіі аб пэрспэктывах разьвіцьця Беларусі. На зьезьдзе будуць абмеркаваныя надзённыя праблемы нацыянальнага жыцьця.

**Беларусы на Львоўшчыне**
Я сябе называю ўкраінцам беларускага паходжаньня. Нарадзіўся ва Ўкраіне, пражыў тут усё жыцьцё, тут вучацца мае дзеці. Аднак усё жыцьцё займаюся беларускаю справаю.

У 1991 г. у адной з львоўскіх газэтаў прачытаў зварот да беларусаў Украіны на беларускай мове, што было дужа дзіўна. Як высьветлілася, гэта была ініцыятыва Згуртаваньня "Бацькаўшчына", беларускай інтэлігенцыі: акадэмікаў, прафэсароў, проста патрыятычных людзей. Пачын падтрымала тадышняя ўлада, у прыватнасьці, БНФ, міністар замежных справаў. Мы пастанавілі стварыць сваё таварыства. Улада пайшла нам насустрач, дала памяшканьне.

Наколькі мне вядома, ва Ўкраіне зарэгістравана блізка 700 тыс. беларусаў. Хаця дапускаю, што ў сапраўднасьці іх ня менш мільёна. Багата беларусаў запісалася расейцамі. Але духам і крывёю яны засталіся беларусамі.

Нашае таварыства раней зьбіралася два ці тры разы на тыдзень (тады яшчэ ў Доме афіцэраў), прыходзіла да 300 асобаў. Сёньня-ж мы сустракаемся на праспэкце Чарнавіла, дзе арэндуем памяшканьне. І маем праблемы: то высяляюць нас, то ключы адбіраюць. Мяркую, што за гэтым стаіць зусім ня ўлада.

На жаль, сёньня ў Львове дзейнічаюць два таварыствы. Я рэпрэзэнтую тое, якое брала ўдзел у Першым зьезьдзе беларусаў сьвету, ініцыятарам якога была "Бацькаўшчына", апазыцыйная да рэжыму Лукашэнкі грамадзкае згуртаваньне. Я, уласна, таксама знаходжуся ў цалкавітай апазыцыі. Гэтага не заўсёды разумеюць старэйшыя векам людзеі. Аднак я ёсьць эканаміст, прадпрымальнік, і калі чую, што чалавек у цэнтры Менску плоціць толькі 1 даляр за камунальныя паслугі, дык успрымаю гэта як абсурд! Я магу ацэньваць рэальную палітычную ды эканамічную сытуацыю. Калі ў 1992 г. 90 адсоткаў дзяцей у Беларусі хадзіла ў школы зь беларускай мовай навучаньня, а сёньня 90 адсоткаў ідуць у расейскія школы, – дык гэта ці ня што іншае, як плянамэрнае зьнішчэньне нацыі, ейнай мовы, гісторыі, культуры?

Зразумела, што ніякае падтрымкі з боку Беларусі мы не атрымоўваем. Беларуская ўлада ставіцца да нас нэўтральна, хоць мы актыўна распаўсюджваем інфармацыю пра рэальны стан у краіне. Дарэчы, на сёньня каля 4 млн. беларусаў жывуць на эміграцыі. Павялічваецца колькасьць палітэмігрантаў.

Беларуская грамада ў Львове хоча, каб беларусы дакладна ведалі, хто яны ёсьць, што яны належаць да адной зь вялікіх эўрапэйскіх нацыяў, якая творыць гісторыю цягам 900 гадаў. Марым пра адраджэньне роднай мовы на Бацькаўшчыне.

*Старшыня Беларускага таварыства імя Янкі Купалы*
**Алесь Ядчанка,**
*Львоў*

**У Рымдзюнах (Астравеччына)**
27-28 красавіка будзе арганізаваная сустрэча навукоўцаў Літвы, Польшчы, Украіны, Беларусі й Расеі. Сэмінар ладзіць Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, тэма сэмінару – "Спадчына Вялікага княства Літоўскага, ейнае значэньне для сёньняшніх беларусаў Літвы і ўзаемаразуменьня ў Эўропе". Кожная краіна будзе прадстаўленая 10-цю навукоўцамі.

*Літоўская філія МАБ*




Сьвяткаваньне Дня Волі ў Калінінградзкім унівэрсытэце

**25 сакавіка 2001 г.**
у будынку старажытнага Кёнігсбэрскага ўнівэрсытэту а 15 гадз. гімнам БНР на словы М. Краўцова адкрыўся ўрачысты сход, прысьвечаны 83-яй гадавіне Дня Волі.

Арганізатарам імпрэзы выступіла Калінінградзкае рэгіянальнае аб'яднаньне "Беларускае таварыства культуры", кіраўнік якога сп. Шаховіч павіншаваў прысутных з найвялікшай для беларускага народу падзеяй XX ст. Беларускую дыяспару Калінінградчыны павіталі ЗБС "Бацькаўшчына" й гданьскія беларусы. Грунтоўны даклад з гісторыі беларускага нацыянальна-вызвольнага руху прачытаў беларускі гісторык Ў. Сосна, які ўжо ў другарадзь наведаў Калінінград. Цікавым было выступленьне выкладчыка гісторыі КДУ сп. Чумакова А. Д. аб разбурэньні стэрэатыпаў савецкага часу ў выкладаньні гісторыі славянскіх народаў у расейскіх ВНУ. Прысутных павіншаваў кіраўнік украінскай дыяспары прарэктар КДУ сп. Касьцюк А. П. Супрацоўнік цэнтру "Супольнасьць" сп. Юрась Новікаў распавёў пра дзейнасьць сваёй арганізацыі ды пра сучаснае становішча ў Беларусі. Канцэртная праграма была выканая нязьменнымі удзельнікаў нашых імпрэзаў, ансамблямі "Чабор" і "Тутэйшыя музыкі". Згодна традыцыі ўрачыстасьць скончылася гімнам "Магутны Божа" ў выкананьні саліста калінінградзкай філярмоніі Ўладзімера Анісімава.

Зразумела, нашае сьвяткаваньне не засталося па-за ўвагай Аддзяленьня амбасады РБ у Калінінградзе. Забараніўшы "самай незалежнай" абласной газэце "Калининградская правда" друкаваць інфармацыю пра нашае нацыянальнае сьвята, яно безвынікова "паласкала мозгі" адміністрацыі КДУ, каторая дазволіла правесьці "экстрэмісцкае зборышча". Дзякуй ім за гэты ўклад ва "ўмацаваньне" Беларускай дзяржаўнасьці.

Жыве Беларусь!

Адам Каралявецкі

**У Варшаве**
каля беларускай амбасады 26 сакавіка адбыўся пікет з нагоды 83-ай гадавіны заснаваньня БНР. Пікетчыкі трымалі плякат *"LUKA GO HOME"* і бел-чырвона-белыя сьцягі, дэманстратыўна павярнуўшся сьпінай да лукашыцкай амбасады. У пікеце прыняла ўдзел больш як за дваццаць асобаў.

*Згуртаванне Беларусаў у Варшаве "РАЗАМ"*

**У выдавецтве "Рунь"**
выдадзеная чарговая кніжка Галіны Войцік і Лявона Луцкевіча з сэрыі "Партрэты Віленчукоў" – **"Канстаньцін Галкоўскі"**. "Галкоўскі, карэнны віленчук і беларус паводле паходжаньня, залічаны ў Літве ў плеяду лепшых нацыянальных кампазытараў. Між тым ня меншыя, калі ня большыя, заслугі ў К. Галкоўскага ёсьць і перад беларускім музычным мастацтвам. Але ў Беларусі ён – забыты кампазытар..."

**У вялікай залі**
Дома Настаўнікаў, упрыгожанай нашым бел-чырвона-белым і дзяржаўным сьцягам Літвы, ЗБГА Літвы зладзіла сьвяткаваньне 83-яй гадавіны абвешчаньня БНР. Сьвяткаваньне пачалося выкананьнем гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Прэзыдэнт Згуртаваньня сп. Лявон Мурашка распавёў пра гістарычную значнасьць абвешчаньня Акту 25 Сакавіка 1918 г., зачытаў віншаваньні з Канады, Нямеччыны, Беларусі, Польшчы, Чэхіі. Сп. Сяргей Вітушка падзяліўся ўспамінамі з нацыянальна-вызвольнага руху яшчэ недалёкіх 80-ых гг., калі за словы пра незалежнасьць Беларусі й выкарыстаньне нацыянальнай сымболікі можна было надоўга патрапіць за краты або ў вар'ятню. Аднак і сёньня на нашай Бацькаўшчыне шмат якія беларускія патрыёты сядзяць у турмах ці прапалі бяз сьледу... Выступоўца заклікаў прысутных на сьвяце быць назіральнікамі на маючых адбыцца сёлета прэзыдэнцкіх выбарах, а таксама выказаў шкадаваньне, што частка беларусаў сьвяткуе гадавіну незалежнасьці ў іншым мейсцы. Пісьменнік і вядомы грамадзкі дзеяч сп. Аляксей Анішчык падкрэсьліў, што ўсё-ж сёньня беларускім патрыётам куды лягчэй змагацца за незалежнасьць, чым напачатку XX ст. Цяпер мы маем значна больш сьвядомых беларусаў, асабліва сярод моладзі. Урачыстасьць закончылася сьпяваньнем гімна "Магутны Божа", пасьля чаго быў паказаны канцэрт з удзелам хораў "Сябрына" (кір. В. Кавальчук) і "Сьвітанак" (кір. Л. Віткоўская).

Міраслава Русак

**Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага**

**Плян дзейнасьці на 2001 год**

***24 сакавіка*** – Вечар, прысьвечаны 83-м угодкам абвешчаньня БНР.

***7 - 8 красавіка*** – "Гуканьне Вясны" ў беларускай вёсцы Тургенеўка Баендаеўскага раёну.

***22 красавіка*** – удзел нашага фальклёрнага ансамблю ў Новасібірскім фэстывалі, прысьвечаным адкрыцьцю Беларускага Культурнага Цэнтру, дзяржаўнай установы, якой, дарэчы, Новасібірская абласная адміністрацыя вылучыла ажно 7 этатаў. (*Нічога сабе! Нам бы гэтак! – заўв. рэд.*)

***31 траўня*** – 5-годзьдзе Іркуцкага Таварыства Беларускай культуры імя Яна Чэрскага .

***3 чэрвеня*** – у Музэі драўлянага дойлідства "Тальцы" нашае Таварыства разам з адміністрацыяй музэю, Украінскім і Рускім культурнымі цэнтрамі ладзіць славянскае абрадавае сьвята "Сёмуха".

***23 - 24 чэрвеня*** – традыцыйнае "Купальле". Але сёлета мы разьлічваем правесьці Абласны фэстываль беларускай песьні ўдзень 23 чэрвеня, а ўначы – абрад "Купальля".

*Ды* ***галоўнае*** *для нас* – удзел ў Трэцім зьезьдзе беларусаў сьвету **5-6 ліпеня 2001 г.**

Алег Рудакоў

# ВЕЛІКОДНЫЯ СЬВЯТЫ

*У афармленьні нумара выкарыстаныя выцінанкі віленскай мастачкі Тацьцяны Маркавец*





*Працяг. Пачатак на першай старонцы*

Стралкі добра ведалі, калі і ў які момант трэба страляць. Так, першыя велікодны стрэлы рабіліся напачатку першага сьпеву "Хрыстос Уваскрос" на хрэсным ходзе. Другі раз тройчы стралялі напачатку велікоднага евангельля. Тады ўжо вартавы з царквы ў патрэбны момант даваў знак стралкам, якія знаходзіліся на дзядзінцы. Стралялі яшчэ й на Велікоднай Вячэры ў часе хрэснага ходу, і назаўтра. Да ўсяго ў часе хрэсных ходаў званілі ўсе званы. А званы ў Касуцкай царкве былі, і цяпер ёсьць, самага высокага гатунку, яны звоняць пявуча, як нідзе больш у сьвеце. Хлопчыкі лазілі на званіцу ды вучыліся званіць у званароў. Прызнаюся, я й сама не магла ўцярпець і, перамогшы страх перад вышынёй, лазіла на тую званіцу, — і гэта была найвякшая прыемнасьць у маім жыцьці...

Пасьля кароткай велікоднай ютрані з царквы выходзіў хрэсны ход з харугвамі й абразамі, а за імі царкоўны клір са сьпевам і гурма прыхаджанаў з сьвечкамі. Яны высыпалі з царквы нібы пчолы з вульля пры раеньні ды йшлі наўкол царквы ў напрамку на Ўсход. Словы сьвятых сьпеваў зьліваліся з урачыстым звонам званоў, гарэлі сьвечкі ў руках, на соснах і ў царкоўных шыбінах. Калі хрэсны ход абыходзіў царкву тройчы, пачыналі сьпяваць "Хрыстос Уваскрос", разам з гэтымі словамі мажджэры пачыналі салютаваць урачыстымі грымотамі. Дзеці й моладзь, абмінаючы вогнішча з мажджэрамі, крыху азіраліся, баючыся, каб чаго добрага "шпунт" не памяняў свае траекторыі ды не зваліўся ім на галовы. Аднак такога ніколі не здаралася, прынамсі ў нас, хаця й хадзілі погалаські, што некаму некалі шпунт зваліўся на галаву, а аднаго разу мажджэр у часе стрэлу разарвала напалам.

Вёска Касута знаходзілася на адлегласьці 10 км ад павятовага мястэчка Вялейкі. У самай Вялейцы да вайны было дзьве праваслаўныя царквы Сьв. Марыі Магдалены й Сьв. Георгіеўская Вялікая Царква. Ды яшчэ на старых праваслаўных могілках, паблізу вастрога, была Сьв. Пакроўская цэркаўка-каплічка, якую немцы спалілі восеньню 1943-га.

Вялікую-ж царкву разбамбілі ў 1944-ым разам з усім мястэчкам. А ў міжваенным часе Велікоднай Ноччу ля Вялікай царквы ў Вялейцы палілі смаляныя бочкі ды стралялі з мажджэраў. Паколькі Вялейка месьцілася пасярэдзіне некалькіх прыходаў — Касуцкага, Рабунскага, Куранецкага, Вязынскага, Нарачанскага (пад Смургонямі), Рэчкаўскага — дык стрэлы з усіх бакоў даляталі да мястэчка й вялейскія каталікі высыпалі на вулкі паслухаць урачыстую страляніну. Нават сам пан староста вялейскі выходзіў з сваёй прыгожай камяніцы непадалёк берага Вяльлі разам са сьвітаю й казаў "Ладне стшэляен!". Зрэшты, ён самжа й выдаваў порах цэрквам для гэтай страляніны.

Велікоднаю Ноччу людзі маліліся да раніцы, затым вакол царквы сьвянцілі "пасху" й разыходзіліся па дамох, каб паразгавецца, адпачыць, а надвечар зноў прыйсьці ў царкву на ўрачыстую вячэрню.

Як мне помніцца, адметнасьцю Велікоднага Сьвята былі валачобнікі. Моладзь зьбіралася купкамі па некалькі чалавек (часам чалавек па 20 у адным гурце), хадзілі з музыкай, часьцей за ўсё з гармонікам, але бывалі й скрыпкі. Пад вакнамі віталі гаспадароў, пяялі ім велікодныя прывітальныя песьні. Часам складалі гаспадарам адумысловыя прывітаньні. Так, напрыклад, суседцы-краўчысе пяялі: "Агата хусткі шаўковыя шыіць...", а мне "Паненачка, паненачка, залатая сукеначка..." Гаспадаром-жа падбіралі песьні больш паважныя зьместам. Часам пад вокнамі адбываліся цэлыя канцэрты. Валачобнымі сьпевамі заканчваўся першы дзень Велікоднага Сьвята — мірна і ўрачыста.

Калі пачалася Другая сусьветная вайна, перасталі ў Велікодную Ноч паліць з мажджэраў каля Касуцкай царквы, зьніклі вогнішчы й ілюмінацыі. Са званіцаў многіх цэркваў гітлероўцы паздымалі званы ды вывезьлі ў Нямеччыну, каб пераплавіць іх на гострыя кулі. Нейкім цудам усе званы на Касуцкай царкве ацалелі, і яны да сяньня мілагучна звоняць на высокай званіцы. Слухаючы іх, здаецца, што гэта, сабраўшыся разам, пяюць галасы ўсіх людзей, якія некалі тут разам, у царкве, маліліся й якіх ужо няма разам з намі...

І самай вёскі Касуцкай ужо няма. Людзей касуцкіх перасялілі, і яны паразьехаліся па ўсім сьвеце, а найбліжэй — у Чыжэвічы, мясцовасьць-жа затапілі Вялейскім вадасховішчам. Засталося крыху „амэрыканцаў" на хутарох ды апошнім часам лезуць туды шалёна нахабныя каляністы-дачнікі. Каля затопленай вёсцы ў лесе стаяць два Крыжы, праваслаўны й каталіцкі. Тут, за млынам, 26 чэрвеня 1941 г. было разстраляна каля паўтары сотні вязьняў зь Вялейскага вастрогу, якіх напачатку савецка-нямецкай вайны гналі на ўсход. Гэта — Касуцкія Курапаты. Такі вось сумны памятны знак астаўся ад Касуцкай вёскі.

**Алёна Шарэпа-Лапіцкая**

Час пасьля Новага Году праходзіў звычайна, толькі на Запусты бабуня рабіла пончыкі й хворост. Пончыкі былі зь вішняй у сярэдзіне, абсыпаныя цукрам-пудрай, а хворост крохкі, далікатны. Ад Попельнай Серады пачынаўся Вялікі Пост, калі ня елі мяса. Стравы былі з рыбы, гародніны, кашы, але ўсё смачнае, "бо бабуля Міла добра варыла". У Вербную Нядзелю сьвянцілі вербы, самыя звычайныя зь іх складаліся з галінак вярбы абсыпаных пушыстымі коцікамі й з галінак ядлоўцу. Гэтыя расьліны здаўна лічыліся ў народзе лекавымі: кару лазы запарвалі як сродак ад гарачкі (пакуль не пачалі прадукаваць асьпірын), а ядловец забівае бактэрыі, ужываецца да вэнджаньня, ягады — як прыправа. Часам куплялі "віленскія вербы", зробленыя з сухавеян, палявых ці садовых, фарбаваных у яркія калёры: зялёны, чырвоны, аранжавы, фіялетавы. Кветкі ўкладаліся вакол прутка ў геамэтрычныя карункі: паскі, ромбы, сьпіралі. Верх "вярбы" ўпрыгожвала мяцёлка цьвятучай травы. Такія вербы прадаваліся каля касьцёлаў і цэркваў. Цяпер-жа іх прадаюць на "Казюка", формы вербаў зьмененыя, але трапляюцца яшчэ й традыцыйныя.

Увесь Вялікі Тыдзень быў падрыхтоўкаю да сьвята. Да Чыстага Чацьверу ўсё было вымытае, вычышчанае, прыбранае. Калі Вялікдзень быў позьні й было цёпла — выймалі падвойныя вокны. Вымытыя шыбы ажно зіхацелі, на вокнах віселі чыстыя накрухмаленыя фіранкі. Паўсюль пахла чысьцінёю. У пятніцу й суботу пяклі, смажылі, тушылі. Раніцой на Вялікдзень хадзілі ў касьцёл пасьвяньціць яйкі й булку. А калі варочаліся, доўгі стол у вялікім пакоі ўжо быў накрыты бялюсенькім абрусам з гірляндамі прышпіленай да яго дзеразы, вечназялёнай, паўзучай расьліны. Пасярод стала стаяў кошычак з фарбаванымі яйкамі. Да фарбаваньня ўжывалі натуральныя сродкі: шалупіньне цыбулі, кару вольхі, рунь. Атрымоўваліся жоўтыя, амаль чырвоныя, зеленаватыя, цаглянага колеру яйкі. А побач стаяў звычайна вазон з гіяцынтамі. Гэта здаўна велікодная кветка, ёю прыбіраюць сьвяточны стол і алтары ў касьцёлах Польшчы, Нямеччыны, Гішпаніі, ЗША. У Вільні даваеннага часу былі дзьве квяцярні: адна на рагу Людвісарскай і Віленскай (Лядзіклос — Вільняўс) — Мачуняка, другая на рагу Завальнай і завулка, які вядзе да касьцёла Сьв. Кацярыны — Вэлера. Дык у вітрынах гэтых квяцярняў перад Вялікаднем зьяўляліся цудоўныя гіяцынты: белыя, ружовыя, сьветлажоўтыя, сінія. Мама там звычайна й купляла вазон з гіяцынтамі.

На адным канцы стала стаялі: шынка, кілбасы, вэнджаніна й смажаніна, паштэты. Пры іх белы моцны цёрты хрэн ды розныя салаткі з гародніны. На другім канцы стала красаваліся "бабы" — высокія, пышныя, пакрытыя белым люкрам, а наверсе кожнай была заткнутая галінка брушніцаў. Пячы "бабы" — гэта кулінарнае мастацтва, і ня ў кожнай гаспадыні яны ўдаюцца. (Адну велікодную "бабу" ўкладалі ў мяшок зь ільнянога палатна й трымалі ў холадзе аж да Сёмухі).

За бабамі стаялі "мазуркі": шакаладны, цытрыновы, цыганскі, — іх рабілі з сушаных сьлівак, фігаў, дактыляў, абрыкосаў, гарэхаў і разынак. Усё добра пасечанае й перамешанае зь пенай бялка клалі на вафлю й ставілі падсушыцца ў духоўку. Дзеці асабліва любілі гэтыя "мазуркі". Бывала яшчэ й печыва з тварагом.

Усе ў сьвяточных убраньнях сядалі пры стале, дзяліліся сьвянцоным яйкам, зычачы адно аднаму здароўя й посьпехаў. Тады ўжо сьнедалі, кожны набіраў на талерку, што было да спадобы. У гэты дзень нічога не варылі, але была заўсёды зялёная зупа, шчаўе або зупа з крапівы й сьніткі з палавінкамі яйка. Ды якаясь мясная страва, загадзя прыгатаваная. І першым і другім днём сьвятаў хадзілі ў госьці або да нас нехта прыяжджаў. Калі была пагода, хадзілі ў лес на шпацыр. Дзеці гулялі ў "біткі", качалі яйкі. Позьнім Вялікаднем у лесе цьвілі пралескі, узгоркі бывалі сінімі ад іх, здавалася, што кавалкі неба апусьціліся на зямлю.

**Галіна Войцік**

Зь цяжкай пасьляваеннай далечыні як нешта сьветлае ўспамінаецца сьвята Вялікадня, да якога вяскоўцы рыхтаваліся яшчэ задоўга, праз увесь пост. У падрыхтоўку ўключаліся й дзеці. Самымі турботнымі былі апошнія два тыдні перад сьвятам, гаспадаркі ва Ўсходняе Беларусі былі вельмі бедныя, птушкай вёска толькі разжывалася, але людзі стараліся, каб на сьвяточным стале былі фарбаваныя яйкі, свайго вырабу сыры, кавалак мяса ці кумпяка, каторыя ўсе вяскоўцы вэндзілі ў адной лазьні. У хатах скаблілі сьцены, жвірам і галякамі шкраблі падлогу, ашпарвалі пазы паміж бярвеньнямі, дзе сядзела незьлічоная колькасьць клапоў, якіх нічым нельга было вывесьці з хатаў. Можа з гэтай прычыны больш заможныя вяскоўцы куплялі на пошце старыя газэты ды выклейвалі імі сьцены, бо шпалеры былі дарагія й незаўсёды іх можна было набыць. Мы бегалі ў тыя хаты з "газэтнымі" сьценамі — тады гэта было нечым новым і дзіўным. А цяпер здаецца, якія мы былі дурні, бо голыя сасновыя сьцены з колерам пацямнелай ад часу медзі, з螺 рознымі сучкамі й трэшчынкамі былі такія прыгожыя, таямнічыя й выклікалі розныя фантазіі, асабліва зімовымі вечарамі; калі вурчэў калаўрот, а цені ад лямпы гойдаліся па сьценах... На вокны й абразы дзеля аздобы вешаліся выцінанкі, таксама з газэтаў, іх для ўсёй нашай вёскі майстравала адна дзяўчына-калека. Апошнія "санітарныя" захады прыпадалі на Чысты Чацьвер. Нас, малых, будзілі вельмі рана й прымушалі бегчы да раўчука, дзе мы былі павінныя вымыць твар у шпарка бягучай, сьцюдзёнай вадзе да ўсходу сонца, каб быць прыгожымі. А хто-ж не хацеў быць прыгожым?! У суботу зранку палілі ў печы й, перабраўшы ўсю цыбулю, напаўнялі ейным шалупіньнем чыгункі, залівалі вадой і рагачом усоўвалі ў печку — так фарбавалі яйкі. Пяклі свае пірагі, якія здаваліся нам казачна смачнымі, бо амаль тыдзень пшаніцу ачышчалі ад пустазельля, сушылі на печы, таўклі ў ступе, а потым малолі на сваіх жорнах уручную, прасейвалі муку, замешвалі цеста. Вечарам бабулі, жанчыны й мы, малеча, адпраўляліся ў царкву за 8 км, бо нашая была зьнішчаная падчас вайны партызанамі, калі аднойчы ўначы яны выбівалі засеўшую там паліцыю. Пасьля хроснага ходу й сьвянчэньня ўжо на золку вярталіся мы стомленыя, але шчасьлівыя, дадому. На Вялікдзень у печы не палілі, для дзяцей сьвята пачыналася ўдзень, калі мы, адаспаўшыся, выходзілі на вуліцу з чырвоным яйкам у кішэні й пачыналі гуляць "у біткі": стукаліся яйкамі й той, чыё яйка трэскалася, аддаваў сваё пераможцу. Дарослыя зьбіраліся на добра высахлай праталіне — у іх была свая гульня. На праталіне ўстанаўлялася дошчачка-лубочак, па якой скатывалася яйка. Калі яно датыкалася да раней скочанага — выйграш твой. Цэлы дзень мы весяліліся, бегаючы ад адной купкі людзей да другой, радаваліся, што ў гэты дзень нам нарэшце дазволена бегаць басанож, скінуўшы дзіравы, цяжкі, непрыстасаваны, з чужой нагі абутак. Басанож мы хадзілі да самых Пакравоў. Але нашая радасьць хутка скончвалася, бо скура на нагах трэскалася, крываточыла — пачыналіся "цыпкі". Боль прыходзіла вечарамі, калі бацькі загадвалі мыць ногі перад сном. І, тым ня менш, шмат што зь дзяцінства захавалася ў памяці, як нешта шчымліва-прыемнае, чаго ўжо ніколі ня вернеш, як ня вернеш бацькоў і ўсіх дарослых аднавяскоўцаў, каторыя дарылі нам і сабе ў тыя змрочныя часы сьветлае сьвята Вялікадня.

**Павал Саўчанка**


## Умовы падпіскі

**Чытачы далёкага замежжа** могуць падпісацца, даслаўшы на рэдакцыю *імянны чэк* сакратару газэты Паўлу Саўчанку (*Pavel Savcenko*). Кошт падпіскі на год – **$20**. Паведамляем гэтаксама наш валютны рахунак:

*Please pay to AS Hansapank, HABA EE 2X at Bankers Trust Co., New York, BKTR US 33, for further credit to AB Hansabankas, HABA LT 22, in favour of VVIC "Demokratija Baltarusijai", account no. 10 000 196 490*

**Жыхары Літвы** могуць падпісацца ў сакратара газэты Паўла Саўчанкі (т: **61 62 24**) або ў кожным паштовым аддзяленьні Літвы. Падпісны індэкс газэты – **0187**. Кошт падпіскі на год – **12 Lt.**

**Падпішчыкам у Беларусі** й **краінах СНД** паведамляем адрас для перасылкі грошаў у Менску: *Кірыл Ігнацік, Сьвердлава 22-41, 220050 Менск.* Кошт падпіскі на год: у Беларусі – сума ў бел. рублях, эквівалентная **$ 3**, у краінах СНД – сума ў нацыянальнай валюце, эквівалентная **$ 5**.

Адрас для допісаў: ***«Рунь» 2001 Vilnius, a/d 1021, Lithuania***


### Ахвяраваньні на газэту:

| | |
|---|---|
| Царква Сьвятой Еўфрасіньні Полацкай у Лёндане, Англія | GBR 100 |
| М. Швэдзюк з Англіі | GBP 30 |
| Л. Колін з Амэрыкі | USD 50 |
| В. Набагез з Амэрыкі | USD 50 |
| М. Латушкін з Амэрыкі | USD 30 |
| М. Смаршчок з Амэрыкі | USD 50 |
| М. і Т. Белямукі з Амэрыкі | USD 20 |
| К. Пануцэвіч з Амэрыкі | USD 25 |
| К. Вініцкая з Амэрыкі | USD 25 |
| А. Палескі з Польшчы | USD 25 |
| М. Быблюк з Польшчы | USD 10 |
| М. Дземковіч з Амэрыкі | USD 50 |
| К. Акула з Канады | USD 30 |

Меркаваньні рэдакцыі не заўсёды супадаюць з пазыцыяй аўтараў


РУНЬ газэта беларусаў Літвы
заснавальнік Таварыства беларускай культуры ў Літве
выдаўца Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў «Дэмакратыя для Беларусі»
адрас рэдакцыі Taikos, 50-29, 2017 Vilnius, Lithuania
тэлефон, факс: (+370 2) 42 38 02
http:// www.runbel.lt
e-mail: editor@runbel.lt
Алег Мінкін – рэдактар
Павал Саўчанка – сакратар
друкарня "Respublikos blankai", Naugarduko g. 41, 2006 Vilnius
наклад 1000
ISNN 1392-7671